13 лістапада 2020 | № 43 (702)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

**Беларусы — як Фенікс, што раптам адчувае сваю сілу**
**стар. 11**

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ




# Ноч заўсёды заканчваецца світанкам

Аксана КОЛБ

**Краіну атачылі «людзі» ў чорным, аліўкавым і яшчэ невядома ў якім колеры. Балаклава як індульгенцыя. Дручок як матыватар. Крык і мацюкі замест песень і дзіцячага смеху. Гвалт і беззаконне навокал. Гэта ўсё ёсць. Няма страху, няма адчаю.**

Тысячы затрыманых, тысячы збітых, сотні знявечаных. Мільёны нескароных. Мільёны тых, хто верыць, — пасля ночы заўсёды надыходзіць світанак. Сотні тысяч смелых — і столькі ж пакуль маўклівых. Крок за крокам краіна ідзе да сваёй новай будучыні.

Да той Беларусі, дзе галоўнымі каштоўнасцямі будуць сумленне, а не лаяльнасць, адукаванасць, а не агрэсіўнае невуцтва, добразычлівасць, а не хамства. Дзе закон будзе законам, а не анучай пад нагамі тых, хто ў балаклаве і з дручком. Дзе Канстытуцыя, а не бязглуздыя загады будзе вызначаць лёс народа. Дзе адносіны паміж людзьмі будуць грунтавацца на салідарнасці і спагадзе.

Вы скажаце: гэта ўтопія, такой краіны няма і быць не можа. Такой краіны не было, дакладна. Але наша Беларусь мае ўсе шанцы такой стаць. Паглядзіце навокал! Бачыце, колькі годных людзей! Колькі тых, хто гатовы падзяліцца апошнім, дапамагчы, не чакаючы чагосьці ўзамен. Колькі тых, хто гатовы абараняць свае правы на годнае жыццё, ваша правы на годнае жыццё!

Ужо сёння наша краіна — прыклад для ўсяго свету. Людзі розных краін з рознымі рэжымамі захапляюцца намі, вераць, што ў нас няма шляху назад. Вераць, што наша будучыня можа быць выключна найлепшай і светлай. І толькі чамусьці мы самі час ад часу губляем надзею. Не верым у саміх сябе. Не верым у нашу моц.

Паглядзіце навокал! Якая будучыня ў тых, што ў балаклавах і з дручкамі? У іх ужо няма нават уласнага твару. Яны баяцца, што вы іх пазнаеце. А можа, ужо баяцца, што самі сябе пазнаюць і не змогуць з гэтым жыць. Яны крычаць і мацюкаюцца, каб не чуць сваёй роспачы. Яны б'юць і зневажаюць, каб хоць так адчуць сябе жывымі. Яны хочуць, каб іх баяліся, але самі баяцца ўбачыць нашу ўсмешку.

Краіну атачыла чорная зграя, ці аліўкавая, ці яшчэ якога невядомага колеру. Над Беларуссю пакуль яшчэ пануе ноч. Але ноч заўсёды заканчваецца світанкам. Гэта закон прыроды. Гэта закон чалавечнасці.

Не трэба роспачы і расчараванняў. Мы разам, нас многа, за намі перамога!

# Выкладчыкі, вы ўпэўненыя, што сёння можна прамаўчаць?

Наталля СУСЛАВА

**Выкладчыкі БДУ выклалі ў сеціва відэазварот да сваіх калег, дзе заклікалі не мірыцца з несправядлівасцю, якая адбываецца ў краіне, захаваць той дух свабоды, без якога немагчыма ўявіць сабе прастору ўніверсітэта.**

Шчыра прызнаюся: калі ў верасні я бачыла першыя відэазвароты выкладчыкаў вядучых мінскіх ВНУ, гэта выклікала ў мяне змяшаныя пачуцці. З аднаго боку, я гатовая была падпісацца пад кожным словам, якія прамаўлялі мае калегі (цяпер ужо былыя), з іншага — мяне не пакідала адчуванне, што гэтага мала. Я глыбока перакананая: калі ты маеш нейкае дачыненне да ўніверсітэту, у тым выпадку, калі сёння затрымліваюць студэнта або выкладчыка, заўтра ты павінен выйсці і заняць яго месца на маршы, устаць у ланцуг салідарнасці, узяць удзел у пікеце. Безумоўна, пры гэтым я разумею, што кожны вольны зрабіць свой выбар сам.

Але сёння я мяркую, што паставіць свой подпіс пад зваротам у абарону правоў і свабодаў — гэта таксама ўжо крок. Адкрыта выказацца на ўніверсітэцкім сходзе — гэта ўжо рашэнне. Не падпісаць дакументы на адлічэнне студэнта — гэта ўжо ўчынак. І асабліва добра гэта заўважна на прыкладзе пераважнай большасці рэгіянальных ВНУ, дзе агулам нядрэнныя выкладчыкі і добрыя людзі масава абіраюць пазіцыю «як бы чаго не здарылася».

А цяпер — рэальныя гісторыі. Не, не для прыкладу. Гэта, як прынята казаць, «інфармацыя да разважання».

Першая гісторыя адбылася ў Расійскай імперыі. У студзені 1911-га Савету Маскоўскага ўніверсітэта былі прадстаўлены прапановы Міністэрства народнай асветы па рэалізацыі пастановы Савета міністраў аб часовай забароне студэнцкіх сходаў і аб выпрацоўцы мер для ўстанаўлення пільнага нагляду за поглядамі навучэнцаў. У сценах універсітэта дазваляліся выключна сходы навуковага характару, а палітычныя пазіцыі студэнтаў павінны былі быць узятыя пад найстражэйшы кантроль.

Навучэнцы адказалі на такое рашэнне масавымі сходкамі, дзе прынялі рашэнне аб пачатку студэнцкай забастоўкі. Па просьбе адміністрацыі ва ўніверсітэт была ўведзена паліцыя. Рэктар Маскоўскага ўніверсітэта заявіў, што «становішча, якое склалася ва ўніверсітэце, робіць цалкам немагчымым колькі-небудзь правільны ход навучальных заняткаў, а <…> для адміністрацыі — выкананне ўскладзеных на яе абавязкаў». Рэктар, яго памочнік і прарэктар падалі ў адстаўку. Праз некалькі дзён у адстаўку ў знак пратэсту супраць палітыкі ўрада сышлі 130 прафесараў і прыват-дацэнтаў.

Аналагічныя сітуацыі склаліся ў Кіеўскім політэхнічным інстытуце, у Данскім інстытуце, у Томскім універсітэце. «Нядобранадзейныя» выкладчыкі былі заменены «добранадзейным». Каласальнае падзенне ўзроўню адукацыі цікавіла ўрад менш за ўсё.

Падзеі другой гісторыі адбыліся ў Нарвегіі ў 1942 годзе. Калі ў перыяд Другой сусветнай вайны Нарвегія была акупаваная Германіяй, міністр-прэзідэнт Відкан Квіслінг пачаў рэалізацыю плана выбудоўвання карпаратыўнай дзяржавы. Першую карпарацыю, паводле яго задумы, павінны былі скласці настаўнікі, якім было прапанавана ўступіць у створаную ў краіне новую арганізацыю выкладчыкаў. Сяброўства ў арганізацыі з'яўлялася неабходнай умовай для працы ў сістэме адукацыі.

Каля 10 тысяч нарвежскіх выкладчыкаў паставілі свае подпісы пад зваротам да Дэпартамента адукацыі, у якім гаварылася, што яны не могуць «разглядаць сябе ў якасці чальцоў новай арганізацыі выкладчыкаў». Урад у адказ на гэта прыпыніў працу ўсіх школ краіны на месяц і прыстрашыў настаўнікаў звальненнем. Дзясяткі тысяч лістоў пратэсту ад бацькоў паступалі на адрас уладаў. Настаўнікі ж працягвалі весці заняткі са сваімі вучнямі нелегальна.

Наступным крокам урада стаў арышт каля тысячы настаўнікаў. Калі іх везлі да месца заключэння, дзеці збіраліся на чыгуначных станцыях па ходзе руху эшалона і спявалі ў гонар настаўнікаў. Выкладчыкі, якія засталіся на волі, па-ранейшаму рашуча адмаўляліся ад пасведчанняў чальцоў новай арганізацыі.

«Вы, настаўнікі, сапсавалі мне ўсё!» — крычаў Квіслінг падчас візіту ў адну са школ. Неўзабаве быў выдадзены загад аб вызваленні арыштаваных выкладчыкаў: праз восем месяцаў яны вярнуліся дадому, дзе іх чакаў трыумфальны прыём. Новая арганізацыя выкладчыкаў так ніколі і не была створана.

За адзін 1928–1929 навучальны год з БДУ было звольнена 32 выкладчыкі, з іх — 7 прафесараў: вырашалася задача па замене буржуазнай прафесуры. У 1930-м быў абвінавачаны ў дзейнасці па ажыццяўленні планаў інтэрвенцыі супраць СССР і беларускім буржуазным нацыяналізме і арыштаваны вядомы гісторык У. Пічэта — першы рэктар БДУ.

У канцы 1920-х і ў 1930-я гады ў ходзе барацьбы з «нацдэмаўшчынай» і «ўхіламі ў партыі» выкладчыкі і студэнты БДУ масава аб'яўляліся «ворагамі партыі і народа» і былі рэпрэсаваныя. У 1937 годзе быў арыштаваны і неўзабаве расстраляны дэкан гістфаку акадэмік В. Шчарбакоў, якому было прад'яўлена абвінавачанне як «нацыянал-фашысту» і «шпіёну».

Больш за 1000 затрыманых у нашай краіне 8 лістапада 2020 года. 9 лістапада на ганак Інстытута гісторыі Акадэміі навук людзі выйшлі з плакатамі: «Гісторыкі супраць рэпрэсій», «1937 = 2020».

У 2020 годзе чытаем на старонках газеты «Беларусь Сегодня»: «…правоохранителям понадобилось всего несколько часов, чтобы очистить город от откровенной мрази. Как всегда, сработали ювелирно».

Выкладчыкі, па азначэнні — людзі, якія чытаюць. Можа, тым, хто да гэтага часу толькі моўчкі прабягае вачыма радкі, час выказацца?

# Чатыры секунды відэа і дзесяць сутак арышту

Аляксандр ЛІБЕРТАД

**Аператар НЧ быў затрыманы, а дакладней, выкрадзены невядомымі ўвечары 8 кастрычніка. Потым, як звычайна, суд і суткі. Як усё было — распавядае ён сам.**

## «Працуе міліцыя»

Звычайны дзень. Рухаюся на «сотцы» ў цэнтр горада. Выходжу на прыпынку, тэлефаную маці, іду ў арку ў бок вуліцы Карла Маркса. Раптам адчуваю, як хтосьці набліжаецца са спіны. Тэлефон імгненна быў выдраны ў мяне з-пад вуха, рукі заламаныя і скаваныя металічнымі кайданкамі. Двое ці трое мужчын кажуць мінакам: «Не хвалюйцеся, працуе міліцыя».

У звычайным аўтамабілі мяне вязуць, як высветлілася, у Цэнтральнае РУУС. У мяне спрабавалі даведацца пароль ад мабільнага тэлефона і абяцалі адразу адпусціць, калі ў ім няма нічога «супрацьзаконнага». Пыталіся пра мой удзел у нядзельных маршах і пра некаторых людзей, з якімі я амаль не маю зносін. Пароль ад тэлефона я не даў прынцыпова: хоць і няма чаго хаваць, але вышэйшы закон нашай краіны, Канстытуцыя, гарантуе кожнаму абарону ад незаконнага ўмяшання ў яго асабістае жыццё, у тым ліку ад замаху на тайну карэспандэнцыі, тэлефонных і іншых паведамленняў, на гонар і годнасць (арт. 28). Законы гэтыя, праўда, ужо даўно не працуюць.

У Цэнтральным РУУС мяне абшукалі, сфатаграфавалі ўсе татуіроўкі, апісалі канфіскаваныя рэчы (тэлефон, банкаўскую картку, ключы, шлюбны пярсцёнак і іншае), якія потым «зніклі» адтуль і да гэтага часу іх не могуць знайсці. У пратакол запісалі мае тлумачэнні, чым я займаўся 23 жніўня (больш за два месяцы таму!). Але я сапраўды не памятаў, так і запісалі. Праз 30 хвілін допытаў мяне пасадзілі ў так званы «стакан», у якім я сустрэў Анатоля Лябедзьку, гэтак жа выкрадзенага з вуліцы.

Праз некалькі гадзін у «стакан» пасадзілі яшчэ двух хлопцаў, як высветлілася пазней, яны ўжо адседзелі свае 15 сутак за акцыі пратэсту, і пасля вызвалення былі ўпэўненыя, што едуць дадому з жодзінскага ІЧУ. Але пакольку на горле была нага супрацоўніка АМАПу (са слоў аднаго з хлопцаў) — усе надзеі аказаліся марнымі. Прывезлі іх назад не проста так, яны цяпер праходзяць як падазраваныя па крымінальным артыкуле 293.

Хлопцаў пакінулі ў халоднай камеры, а мяне і Лябедзьку этапавалі ў ІЧУ. Там да суда я пазнаёміўся з рабочымі МТЗ, завода Вавілава, IT-спецыялістамі і іншымі цікавымі людзьмі, якія гэтак жа былі выдраныя з гарадскіх вуліц невядомымі.

## Суд

У кабінеце ІЧУ праз скайп пачаўся працэс. Яго вяла вядомая ўжо Вікторыя Шабуня. Доказам майго ўдзелу ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве стала відэа ажно на 4 секунды, дзе я іду ў адваротным ад маршу кірунку, сустрэўшы сваіх знаёмых. Сведка — Александровіч Аляксандр Аляксандравіч падключыўся да нашага працэсу і пачаў адказваць на пытанні майго адваката: ці ішоў я па праезнай частцы, ці была ў мяне якая-небудзь сімволіка ў руках, ці выкрыкваў я лозунгі. Адказы на ўсе пытанні былі «не». Мае тлумачэнні, што я прысутнічаў на акцыі як журналіст (фота- і відэаапаратар) і вяртаўся пасля здымак, былі запісаныя ў пратакол пасяджэння, але ніяк не паўплывалі на ход справы. Вынік — 10 сутак арышту.

## ЦІП

Рукі за спінай, падымаемся на трэці паверх, камера нумар 23. Павітаўшыся, мяне з усмешкай спыталі: «Палітычны?».

Хлопец, на чыё месца мяне прывязлі, адседзеў свае 15 сутак за ўдзел у акцыях пратэсту і чакаў вызвалення з хвіліны на хвіліну. Другі, IT-спецыяліст, якому далі 15 сутак, ехаў міма шэсця на ровары, з ім і затрымалі. Яшчэ двое сукамернікаў былі непалітычныя. Усе яны — цікавыя асобы са сваімі гісторыямі. У 23-й «хаце», як прынята называць камеры, былі свае традыцыі. Кожную раніцу і вечар, мы выглядалі ў вакно, з якога быў бачны чырвона-зялёны сцяг, у надзеі, што яго ўжо там няма (фантазіі, але ўсім падабалася гэтая тэма).

Навіны з волі прыходзілі з новымі затрыманымі, і прыходзілі яны амаль кожны дзень. Акурат за нашымі дзвярыма, у калідоры, адбываліся суды. Рабят ставілі да сцяны і па чарзе выклікалі да стала, на якім стаяў ноўтбук. «Так, я ўдзельнічаў у масавым мерапрыемстве і прызнаю сваю віну, прашу даць мне штраф, а не суткі», «Я не ўдзельнічаў у акцыі, віну сваю не прызнаю», «Я ўдзельнічаў у мірнай акцыі, гэта маё законнае права!» — усе гэтыя словы ад розных людзей насамрэч ніякім чынам не ўплывалі на рашэнне суддзяў.

Амаль да ўсіх затрыманых прыходзілі супрацоўнікі Следчага камітэта (ці можа нейкіх іншых структур), цікавіліся паролямі ад тэлефонаў і тым, што людзі рабілі на акцыях пратэсту.

Раніца серады, а гэта значыць, што заўтра будуць «перадачкі». Цёплая вопратка, ежа і чыстая вада. Але адчыняюцца дзверы: «Вялітчанка, з рэчамі на выхад!»

## Жодзіна

Аўтазак, дарога, Жодзіна. Усіх па адным вывелі з аўтазака, шчыльна паставілі тварам да сцяны, у два шэрагі, а пасля пагналі па падземных турэмных тунелях. Хто бег павольна — атрымліваў дубінкай па нагах, хто глядзеў па баках — быў папярэджаны, што атрымае дубінкай. І вось яна, камера нумар 4, мой новы дом на бліжэйшыя 5 дзён. Са мной сядзелі добрыя людзі: моўшн-дызайнер, іпэшнік і рабочы чыгункі.

Пад'ём у 6 гадзін раніцы пад дзяржаўны гімн, потым снядання. Сядзець на ложках забараняецца, пад пагрозай адымання матрацаў і перспектывы правесці ноч на жалезным ложку. Нам пашанцавала, што ў камеры былі кнігі і намаляваныя кімсьці да нас ігральныя карты. Чытаеш кнігу, потым гуляеш у карты, размаўляеш, потым зноў кніга — так дні і праходзяць у гэтых месцах. За 5 дзён у Жодзіна нас вывелі на шпацыр толькі аднойчы.

Цяпер аказацца за кратамі можа любы чалавек, нягледзячы на тое, удзельнічаў ён у мірных акцыях ці выпадкова праходзіў міма, працаваў журналістам ці проста прыйшоў пагледзець. Жартуюць, што «калі не сядзеў — не беларус», і, на вялікі жаль, гэты жарт з кожным днём ператвараецца ў рэальнасць. Цяпер за кратамі застаюцца журналісты, якія рабілі сваю працу на мірных акцыях пратэсту, сотні іх удзельнікаў, многім з якіх пагражаюць крымінальныя артыкулы. Што нас чакае наперадзе — не ведаю. Але магу сказаць дакладна, што мільёны беларусаў і беларусак, незалежна ад таго, ці выходзілі яны на маршы і ланцугі, ужо не будуць ранейшымі і не забудуць, праз што давялося прайсці ім і іх блізкім.

# Да якога берага прыб'е нашу школу

Тамара МАЦКЕВІЧ

**У нядзелю на маршы затрымалі майго сябра, паплечніка, педагога, кандыдата навук Міхася Кудзейку. Чалавека, які вядомы многім тысячам калег, з якім 15 гадоў працуем у адной камандзе, вядзем праграмы падтрымкі настаўнікаў.**




Гэтая каманда, створаная Таварыствам беларускай школы, працуе для настаўнікаў як армія выратавання: навучыць, параіць, усё зразумее, выратуе ад эмацыйнага выгарання, і Міхась для калег-педагогаў — і аўтарытэт, і любімчык.

Здаецца, у ягоную абарону павінна выступіць уся педагагічная супольнасць, стаць гарой, знесці тое Акрэсціна, напісаць процьму петыцый, запатрабаваць адстаўкі міністра МУС… Але, на вялікі жаль, разлічваць на салідарнасць педагогаў не выпадае. Чаму? Як так здарылася? Што адбываецца ў нашай школе?

## Чаму школа не скарыстала шанец для зменаў?

Раніцай 10 жніўня Беларусь прачнулася ў новай рэальнасці. Падзеі разгортваліся як у камп'ютарнай гульні: напярэдадні каля выбарчых участкаў (збольшага — у школьных дварах) сабраліся воіны святла — звычайныя грамадзяне, якія чакалі пратаколаў з вынікамі выбараў, на іх напалі атрады чорных карнікаў. Шмат дзе гэтых карнікаў выклікалі настаўнікі, якія вучаць дзетак гэтых грамадзян «разумнаму, добраму, вечнаму».

Пасля бітвы дабра са злом светлыя сілы панеслі страты, але набраліся досведу і рашучасці — і перайшлі на новы ўзровень гульні. Сярод светлых сілаў былі не толькі збітыя на горкі яблык АМАПам грамадзяне, але і настаўнікі. Памятаеце шматтысячны марш настаўнікаў супраць гвалту і хлусні, які адбыўся 14 жніўня? Настаўнікі прайшліся праз увесь горад, зрабілі імправізаваную лінейку на плошчы Незалежнасці, праспявалі каля ЦВК для Лідзіі Ярмошынай песню «Дважды два — четыре» і ўсклалі кветкі да Міністэрства адукацыі, каб спачывала з мірам. Цяпер такое здаецца нейкай фантасмагорыяй.

А тады, у жніўні, на нейкі час падалося, што школа мае шанец змяніцца, што да яе могуць вярнуцца функцыі навучання, а не кантролю. Памятаю, як дырэктарка школы №69, куды мы прыйшлі з незалежнымі назіральнікамі, адкрыта казала пра фальсіфікацыі, скардзілася, што пад аховай АМАПу вывезлі толькі «сваіх» чальцоў




камісіі — супрацоўнікаў заводу шасцерняў, — а яе пакінулі адну супраць натоўпу пабітых дубінкамі людзей. Слёзы цяклі ў два ручаі, калі яна прызналася, што не ведае, як далей жыць, як глядзець у вочы сваім выпускнікам і бацькам вучняў. Дырэктарка раілася, што рабіць, бо ўжо пазванілі з КДБ, прыедуць забраць запісы з камер назірання. Жанчыну было шкада. Яна выглядала шчырай. Гаварыла праўду. Здавалася, што вось ён — момант ачышчэння. Са школы сыходзіць хлусня, двудушша, прыходзіць час зменаў і адкрытага вырашэння праблем.

На жаль, ілюзіі доўжыліся нядоўга. Убачыўшы начальства, тая дырэктарка зноў ператварылася з чалавека ў біяробата. Ні шчырасці, ні слёз раскаяння, ні шкадавання. Больш вучні, іх бацькі і збітыя выпускнікі, якіх у гэты час ужо катавалі на Акрэсціна, і ўсё, звязанае з адукацыяй, мараллю, сумленнем яе перастала цікавіць. Значыць, і заўтра яна зноў без долі сумневу выкліча на мірных людзей АМАП, не пусціць назіральнікаў да падліку галасоў, падпіша любы фальшывы пратакол.

Чаму настаўнікі не падтрымалі змены, не аб'ядналіся для адстойвання сваіх інтарэсаў? Чаму не скарысталіся энергіяй бацькоў, якія стварылі чаты, тэлеграм-каналы і адсочваюць, каб калі што — бараніць дзяцей і настаўнікаў ад ціску, пабораў, ідэалогіі, непатрэбных мерапрыемстваў, прамывання мазгоў, якія так і засталіся асноўнымі функцыямі школы?

У мяне няма адказу на гэтыя пытанні. Губляць настаўнікам, здаецца, няма чаго. Ды і такая пазіцыя маўчуноў найперш б'е па іх саміх. Іх цяпер няма каму бараніць, калі другая хваля пандэміі выкошвае да 30 працэнтаў педагагічнага складу. Прафсаюзу — няма, Белай Русі напляваць на сваіх чальцоў, статыстыка хаваецца, а настаўнікі выбіраюць шлях не крычаць, а маўкліва памерці.

Нават найлепшыя прадстаўнікі прафесіі — за выключэннем адзінак — дагэтуль думаюць, што могуць сядзець на двух крэслах. Калі не зрабіць выбар, настаўніку лёгка стаць саўдзельнікам злачынстваў. Настаўнікі ў сваёй большасці нават не спрабуюць зрабіць гэты выбар, яны тупа працягваюць выконваюць загады ўлады, нават калі гэта ўлада стала забойцам не толькі вучняў, бацькоў, але і іх саміх.

Няўжо за гады праўлення Лукашэнкі ў адукацыю прыйшоў чалавечы капітал такой нізкай якасці? Няма заробку, няма канкурэнцыі, няма прафесійнага адбору на прафпрыдатнасць. Пра якія гонар і прафесійную годнасць можна казаць? Самі настаўнікі хоць ведаюць, што такое гонар ці годнасць?

Конкурсы, святкаванні, паказуха — пляскі перад уладай — усё, што ўмее наша школа. Гэта мадэль беларускай школы, якая была да 9 жніўня 2020 года: ШКОЛА І НАСТАЎНІКІ ПАВІННЫ АБСЛУГОЎВАЦЬ УЛАДУ. Справядлівасць, інтарэсы бацькоў і дзяцей, сама адукацыя — гэта ўсё другаснае — як той шосты вучэбны дзень.

Але такая сітуацыя не можа захоўвацца доўга. Бо грамадства змянілася. Змянілася ўсё асяроддзе — і школа не можа доўга заставацца ранейшай. І нават шэрая маса, якая атабарылася ў нашых школах, але па ўзроўню культуры, адукацыі і маралі яўна не павінна дапускацца да выхавання дзяцей, нічога не зможа зрабіць.

## Што змянілася ў школе?

Калі пытаешся ў настаўнікаў, што змянілася, яны адказваюць, што дзеці не маўчаць. Яны больш не хочуць трываць атмасферу затхласці і цвілі. Яны ніколі не вернуцца ў мінулае, найперш — з эстэтычных прычынаў. Эстэтыку калгасна-камсамольскага ўра-патрыятызму ў XXI стагоддзі новае пакаленне не ўспрымае. Таму на перапынках гучаць пратэсныя песні і заклікі да зменаў, удымаюцца сцягі. Для вучняў больш не існуе забароненых тэмаў — яны задаюць адкрытыя пытанні настаўнікам на ўроку і па-за ім.

Актывізаваліся і аб'ядналіся бацькі. Яны толькі вучацца кантраляваць і патрабаваць якаснай працы школы, якая існуе за іх жа падаткі. Але навучацца — няма сумневу.

З настаўнікамі — больш складана. Настаўнікі ў школах падзяліліся на два лагеры: добрыя прафесіяналы, упэўненыя ў сабе самадастатковыя асобы выступаюць за змены, а, так бы мовіць, чалавечы капітал ніжэйшай якасці трымаецца старой парадыгмы. Адміністрацыя нервуецца.

Атмасфера ў школах напружаная, дэпрэсіўная. У паветры лунае пагроза рэпрэсій. Улада спадзяецца, што школа дапаможа закруціць гайкі — будзе пагражаць бацькам, што іх сем'і паставяць на ўлік, а то і адбяруць дзяцей, каб тыя не далучаліся да пратэстаў, выганіць настаўнікаў з дэмакратычнымі поглядамі.

Часткова школа апраўдала давер улады — настаўнікі ў верасні ўжо ладзілі ўрачыстыя прыёмы ў акцябраты-піянеры і спрабавалі прыструніць іншадумцаў. А зварот педагогаў супраць гвалту, беззаконня і хлусні падпісалі каля тысячы чалавек — не больш за 1% настаўнікаў.

Бацькі па-ранейшаму разглядаюцца школай як ворагі. Праўда, цяпер можна сказаць, што хутчэй адміністрацыя школаў баіцца аб'яднання бацькоў і настаўнікаў. Рана ці позна настаўнікі зразумеюць, што трэба проста аб'яднацца з тымі, для каго працуе школа.

Але стэрэатып паслугачоў рэжыму так уеўся ў свядомасць нашых педагогаў, што яны сталі падобныя да зашораных вучняў-выдатнікаў, якія не могуць рашыць простую алімпіядную задачку, бо там трэба адыйсці ад двухмернай прасторы і паглядзець на яе ў трох вымярэннях. Цяпер, калі працэс пайшоў, у педагогаў толькі адно выйсце, каб выжыць і не ператварыцца ў голема: стаць на адзін бок з бацькамі, студэнтамі, дзецьмі і разам бараніць нашы агульныя інтарэсы.

Нягледзячы на ўсё, у нас яшчэ ёсць шанец пабудаваць школу без хлусні, без страха, без халуйства. Трэба паглядзець на сябе з трохмернай прасторы. Не пазбаўляць сябе будучыні, бо яна ўжо настала.

У інфармацыйным грамадстве немагчыма нічога схаваць — ні станоўчае, ні адмоўнае. Бруд адразу ўсплывае і становіцца заўважным. (Узгадайце відэазапіс кіроўцы аўтазака, які разлецеўся па ўсіх чатах!) Смелыя ўчынкі і імёны добрых людзей таксама фіксуюцца ў лічбавай прасторы для далейшага асэнсавання і стварэння гонару нацыі. У часы пераменаў немагчыма мець двайную мараль, служыць і вашым і нашым. Цябе заўсёды прыб'е ці да герояў, ці да здраднікаў. Дык да якога берага прыб'е нашу школу?

# Хто стоміцца першым?

Сяргей ПУЛЬША

**Шмат што ў сённяшняй сітуацыі нам застаецца нябачным. Мы іншым разам назіраем выключна за вынікамі тых працэсаў, якія праходзіць ва ўладзе.**

Лепш за ўсё наступствы і іх прычыны бачныя ў эканоміцы. Напрыклад, у маім раёне падрадчык не скончыў капітальны рамонт некаторых дамоў і павесіў для жыхароў абвестку: «Мы не можам скончыць працы, бо за іх не разлічваецца ЖЭС». Гэта азначае, што ў дзяржавы заканчваюцца грошы.

Апошнім часам відавочна ўзмацніліся рэпрэсіі. Гэта і адлічэнні студэнтаў на загад Лукашэнкі «абысціся без іх», і брутальнае задушэнне пратэсту медыкаў (у час пандэміі, калі рост захворванняў у Беларусі б'е нават веснавыя рэкорды!), і, канешне ж, жорсткі разгон «Марша народаўладдзя», якому так і не далі сабрацца.

Па звестках праваабаронцаў, колькасць затрыманых у мінулую нядзелю ўпершыню за апошнія месяцы наблізілася да лічбаў 9–12 жніўня, — самых «гарачых» дзён пратэсту. Калі 12 жніўня было затрымана каля 1000 чалавек, то 8 лістапада — больш за 1200.

Якія нябачныя працэсы падштурхнулі ўладу на новы віток рэпрэсій? Ці сапраўды ў Лукашэнкі сыходзіць час, і яму крытычна важна ўтаймаваць непакорлівае грамадства?

### Жорсткае раздражненне

Палітолаг Валерый Карбалевіч у сваім блогу на «Свабодзе» вылучыў пяць прычынаў, чаму ўлады зноў пачалі дзейнічаць больш жорстка. На яго думку, найперш, для некаторых персанажаў невыносна, як штонядзелю сталіца ператвараецца ў свята непадпарадкаванага народу. І гэта сапраўды ўкладваецца ў логіку Лукашэнкі. Яму не тое што гэта невыносна — гэта падрывае яго імідж якога-ніякога, а кіраўніка.

Сапраўды, ён ужо не раз аддаваў загад «утаймаваць Мінск» і «прывесці яго да ладу». Але ніякага ўтаймавання не адбываецца — людзі працягваюць выходзіць, насуперак яго загадам і рэпрэсіям. Карныя органы не спраўляюцца з плынню народу. Атрымліваецца, як у анекдоце: «Я цябе пасаджу! — Тады мой брат выйдзе. — Я і яго пасаджу! — Тады мой сябра выйдзе! — Я і яго пасаджу! — Ды тады ўжо я вызвалюся!»

Пасля брутальных дзеянняў сілавікоў Лукашэнку прыляпілі мянушку «прэзідэнт АМАПу». Але тое, што пратэсты працягваюцца, а ён не здольны іх утаймаваць, падрывае яго пазіцыю нават і як «прэзідэнта АМАПу». Таму што яго загады, атрымліваецца, не выконвае і не можа выканаць нават АМАП. Што ўжо казаць пра астатнюю краіну, якая яго ненавідзіць — хто ціха, а хто і ўголас.



Фота www.svaboda.org




Фота Дзяяны Серадзюк

Тут адкрывай метро ці АЭС, не адкрывай — усе бачаць, што магчымасць для кіравання і кантролю — на мінімальным узроўні. І бачаць не толькі ўнутры краіны, але і звонку.

### Мы стаміліся?

Па-другое, на думку Карбалевіча, улады адчулі псіхалагічную стомленасць людзей, якія выходзяць на пратэсты, і вырашылі выкарыстаць зручны момант. Мабыць, калі сёння брутальна «зачысціць» адзін марш, у другі раз людзі не збяруцца.

Сапраўды, і халоднае надвор'е, і павышанае захворванне на covid-19, па ідэі, павінны былі б адштурхнуць народ ад удзелу ў масавых пратэставых акцыях. Але, на вялікі жаль, гэта так ужо не працуе. Грамадства адказвае на віткі гвалту віткамі мабілізацыі. І можна разлічваць, што наступны марш, наадварот, будзе больш шматлюдны, чым «Марш народаўладдзя».

Людзей абурае не толькі непрапарцыйнае прымяненне сілы і рэпрэсій. Іх абурае і тое, што сілавікі грэбуюць нават прызнанымі аўтарытэтамі. І народ натхняе, што гэтыя прызнаныя аўтарытэты — з ім, хай і затрыманыя падчас маршаў і «зачыстак».

Навошта было выцягваць з таксоўкі ці не самага вядомага блюзмэна Беларусі Паўла Аракеляна пасля дваровага канцэрту? Навошта затрымалі «Міс Беларусь 2008» Вольгу Хіжынкову? Да таго ж яна не толькі «міс», але і былая прэс-сакратарка ФК «Дынама» (Брэст). Уяўляеце, як на гэтую навіну адгукнуцца заўсёды радыкальныя тыфозі клуба?

А нашто было затрымліваць «Маляванычa» з «Калыханкі»? Знакаміты акцёр Аляксандр Ждановіч усяго толькі зрабіў заўвагу сілавікам. Але ён, напэўна, за кратамі сустрэнецца са срэбраным прызёрам Алімпіяды–2008 Андрэем Краўчанкам...

Шмат хто з беларусаў ужо ўпэўнены — за кратамі яму трапіцца вельмі добрая кампанія, бо там аказваюцца лепшыя людзі краіны. Наўрад ці пасля такіх звестак нехта будзе палохацца выходзіць на акцыі супраціву.

На наступны дзень пасля разгону 8 лістапада заявы пра далучэнне да страйку напісалі першыя супрацоўнікі БелАЗа. Раней на прадпрыемстве ўдалося згасіць незадаволенасць, але брутальная «зачыстка» пратэставай акцыі прывяла да такога выніку.

### Каму цяжэй за ўсіх?

Валерый Карбалевіч лічыць, што пратэст у рэгіёнах сцішыўся, і таму мясцовую міліцыю можна спакойна перакінуць у Мінск — гэта трэцяя прычына для ўзмацнення рэпрэсій. І ў той жа час аналітык зазначае, што (па-чацвёртае), трохмесячнае супрацьстаянне — гэта барацьба на змор, на знясіленне праціўніка. Хто першы не вытрымае напругі. Можна меркаваць, што сілы супрацоўнікаў МУС на сыходзе. Таму трэба паспяшацца, каб адным махам, адным ударам пакончыць з пратэстамі і, нарэшце, спакойна выдыхнуць.

Што да «суцішвання пратэстаў у рэгіёнах» — можа быць, гэта і так. Аднак «перакідванне міліцыі ў Мінск» наўрад ці адбываецца. Бо тактыка АМАПу вядомая: задушваць пратэсты павінны «не мясцовыя» — так прасцей пазбегнуць «вендэты». Дый разганяць «чужых» значна прасцей, чым «сваіх» — амаль няма шанцаў, што ў аўтазаку разам з амапаўцам акажацца сусед, школьны таварыш, «першае каханне»... Таму мінскі АМАП едзе «на разгоны» ў Віцебск, віцебскія — у Гродна, гродзенцы — у Мінск...

Менавіта з гэтай прычыны, дарэчы, яны так хваравіта ўспрымаюць працэс здзірання масак. Таму што тады іх родзічы ў рэгіёнах пабачаць, чым яны займаюцца ў «камандзіроўках». А супрацоўнікі ГУБАЗіК — дык і ўвогуле, найхутчэй, мясцовыя.

А вось наконт таго, што сілы ў сілавікоў (прабачце за таўталогію) на сыходзе — гэта сапраўды так. Тэлеграм-канал «Інсайдэр» «злавіў» на фота машыну, у якой перавозяць сілавікоў, абсталяваную імправізаванымі лежакамі — гэта азначае, што «спецлюдзей» не тое што дадому не адпускаюць, але яны нават да казармаў могуць даехаць не заўсёды — спяць у машынах. А жыхары дамоў, у якіх кватэры выдаваліся супрацоўнікам АМАПу, расказалі TUT.BY, што суседзяў бачаць вельмі рэдка: «Яны на ўзмацненні на базе пастаянна сядзяць. У чаканні. Каманда паступіла, яны сабраліся і паехалі. Казарменнае становішча ў іх. Думаю, што ў буднія дні яны яшчэ дома, але ў выходныя — дакладна не».

Таму, безумоўна, зморанасць у непасрэдных выканаўцаў загадаў аб разгоне прысутнічае. А значыць, ім хацелася б скончыць усё адзін раз, і назаўсёды. Але наўрад ці гэта атрымаецца. Таму што на маршы выходзяць розныя людзі — сёння адны, заўтра іншыя. А вось у міліцыянтаў магчымасцяў такой «ратацыі» не вельмі багата.

Можна колькі заўгодна скептычна ставіцца да словаў Паўла Латушкі, які, пасля падзей 8 лістапада заявіў, што 15–20% супрацоўнікаў, не згодных з рэжымам, ужо не хаваюць сваю пазіцыю і адкрыта кажуць пра гэта начальству, а вялікая група супрацоўнікаў міліцыі, у тым ліку «дастаткова высокапастаўленых» афіцэраў даўно напісалі рапарты на звальненне. Але гэтыя рапарты не задавальняе ўлада, таму што баіцца ланцуговай рэакцыі.

Але ж у Мінску адбыўся цікавы выпадак: блогер Матолька аднекуль даведаўся пра сакрэтны «пароль», па якім амапаўцы распазнаюць «сваіх» і выпускаюць з аўтазакаў. Адна дзяўчына гэтым скарысталася — і яе сапраўды вызвалілі.

Хтосьці ж паведаміў некаму гэты пароль? Якімсьці чынам ён трапіў да Маталькі? Відавочна, што нехта з сілавікоў сапраўды зліў інфармацыю пратэстоўцам...

І відавочна, што 8 лістапада, нягледзячы на брутальны разгон, нічога не змянілася. А значыць, стомленасць у сілавікоў і прэсінг на іх будзе назапашвацца. Ці датрываюць яны ў такіх умовах да Новага года? І яшчэ вельмі цікавае пытанне: а што будзе ў калядную ды навагоднюю ночы? Бо народ да іх дажыве дакладна. А сілавікі?

### Масква слязам не верыць?

І канешне, Валерый Карбалевіч у якасці фактара эскалацыі гвалту зазначае ціск Расіі. Былі розныя гіпотэзы расійскіх экспертаў, маўляў, Пуцін даў Лукашэнку абмежаваны час, каб навесці парадак. А Лукашэнка не ўкладваецца ў графік, і таму падганяе падзеі.

Сапраўды, мы бачым, як змяняецца рыторыка расійскіх тэлеканалаў. Яшчэ два месяцы таму яны «тапілі» за Лукашэнку, абвінавачваючы Захад у спробах «каляровай рэвалюцыі» ды ўхваляючы «рэзерв Пуціна» з росгвардзейцаў па «дапамозе» Беларусі. Цяпер жа нават Салаўёў «разносіць» беларускую ўладу за арышт Леўчанка, а больш-менш уцямныя сюжэты пра Сінявокую з'яўляюцца нават у расійскіх рэгіянальных тэлеканалах.

Мажліва, сапраўды, у Лукашэнкі сыходзіць час для «пацыфікацыі» краіны. Аднак ён не толькі не «замірыў» Беларусь, але і не выконвае новых сваіх абяцанняў. Ужо месяц прайшоў з яго заявы перанакіраваць беларускія нафтапрадукты ў расійскія парты, але паліва працягвае цячы на Захад праз Балтыю. Таму Масква мае падставы для незадавальнення.

Але ўва што выльецца гэтае незадавальненне? Мы ўжо бачылі спробы патузаць Лукашэнку праз медыйную кампанію — серыялам «Хросны бацька» ў 2010-м. Тады вялікага поспеху гэта прапагандысцкая кампанія не мела. І што будзе рабіць Крэмль у выпадку, калі Лукашэнка (у чарговы раз) праігнаруе выкананне сваіх абавязальніцтваў — таксама загадка.

У любым разе, унутраныя чыннікі беларускага пратэсту дзейнічаюць лепш, чым знешнія.

### Зацішша не будзе

Беларускі пратэст відавочна знясілвае Лукашэнку. Святлана Ціханоўская, рэагуючы на разгон 8 лістапада, слушна заўважыла: «Наш шлях да свабоды аказаўся марафонам — але мы ўжо не сыдзем з дыстанцыі». Таму што ў пакуль яшчэ кіраўніка дзяржавы ёсць толькі адна формула дзеяння — рэпрэсіі. А ў беларусаў формаў дзеяння шмат: ад дваровых канцэртаў да ўпрыгожвання раёнаў, ад лакальных «ланцугоў салідарнасці» да агульных мітынгаў, ад няспалты падаткаў да «італьянскіх забастовак», ад страйкаў да салідарнасці са звольненымі ды адлічанымі.

Сапраўды, негвалтоўны супраціў — гэта марафон. І галоўнае ў ім — не сцішвацца. Час працуе не на ўладную машыну. Мы не ведаем, якія працэсы адбываюцца ўнутры «таго боку», але нерваў і здароўя там дакладна не дадаецца. А таму няма ніякай прычыны спыняцца. Нават нягледзячы на надыходзячыя халады.

# Ад СВБ да КР: як кляпаюць палітычныя справы

Таццяна ПРОЦЬКА

**Выклік у Рэспубліканскі Следчы камітэт я атрымала 4 лістапада. Падчас допыту ў якасці сведкі па крымінальнай справе Каардынацыйнай рады мяне не пакідала ўражанне, што я ўжо прысутнічала на нечым падобным — нават ведаю пытанні, адказы і вынікі.**



Фота з сацсетак

Спачатку я падумала, што гэта асацыяцыі з жорсткасцю рэпрэсій 1937 года — здзекі з людзей на Акрэсціна ў сучасным Мінску мала чым адрозніваюцца ад вядомых мне з архіваў КДБ апісанняў здзекаў у Гомелі ў 1937 годзе. Але следчы, якому я сказала пра гэтыя асацыяцыі, пакрыўдзіўся і катэгарычна абверг маю думку. Асабліва спрачацца на допыце не выпадае, але калі я вярнулася дамоў, прагледзела свае запісы і знайшла правільнае параўнанне.

## Мінулае

У 1930-я гады гучныя публічныя (пра іх згадвалася ў СМІ) палітычныя працэсы мелі некалькі мэтаў. Першая мэта — пазбавіцца ад іншадумства сярод інтэлігенцыі і апарата рэспубліканскага і мясцовага кіравання, як партыйнага, так і гаспадарчага шляхам іх ізалявання ці вынішчэння. Другая — адцягнуць увагу людзей ад падзей, якія адбываюцца ў краіне, і ад праблем, якія ўлада не ў стане вырашыць. Трэцяя — папярэдзіць магчымы рост іншадумства шляхам запалохвання ўсіх колаў насельніцтва.

Каб дасягнуць вызначаных вышэй мэтаў, спецслужбы (тады АДПУ-НКУС) прапанавалі наступную схему: вызначаецца праблема і артыкул Крымінальнага кодэкса, выяўляюцца найбольш гучныя незадаволеныя-іншадумцы, якія пазней абагульняюцца ў нейкую арганізацыю — антысавецкую, шпіёнска-дыверсійную ці контррэвалюцыйную, — частка з іх прызначаецца яе кіраўніцтвам. Падчас допытаў удакладняецца месца дыслакацыі арганізацыі, яе шараговыя ўдзельнікі і іх сувязі, атрымліваюцца прызнальныя паказанні. Наяўнасць антысавецкай арганізацыі значна спрашчала судовую працэдуру — для асуджэння было дастаткова быць яе ўдзельнікам. Гэтая схема, як і мэты, захаваліся да сёння і выкарыстоўваюцца следчымі органамі.

Першай па часе была справа Саюза вызвалення Беларусі (СВБ) (1930–1931 гады). Тады ў турэмныя засценкі трапілі 112 прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Частку арыштаваных адпусцілі, а па 86 пачалі следства. На папярэднім следстве цалкам альбо часткова вінаватымі прызнала сябе палова арыштаваных, другая палова абвінавачванні адхіліла, заявіўшы, што «ў СВБ ніколі не былі і пра яго існаванне даведаліся ад следчых».

Працягам справы СВБ у чэрвені-жніўні 1933-га стала новая справа — Беларускай Народнай Грамады (БНГ). У арганізацыю было залічана 68 чалавек, пераважна журналістаў, пісьменнікаў, настаўнікаў, студэнтаў — тых, хто мог пісьмова зразумелай для людзей мовай выказаць пратэсныя настроі, якія сталі масавымі ў БССР у сувязі з голадам 1933 года і незадаволенасцю калектывізацыяй.

Арганізацыя быццам бы складалася з 14 ячэек у Мінску, Оршы, Слуцку, Капылі, Мазыры і іх раёнах. Кіраўніком арганізацыі прызначылі 33-гадовага эканаміста Фелікса Кунцэвіча. Асноўнай мэтай арганізацыі лічылася аддзяленне ад СССР і ўтварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў саюзе з Літвой і Украінай, ці ў блоку Літва-Латвія-Беларусь. Варожая дзейнасць чальцоў арганізацыі складалася ў выказванні нязгоды з умацаваннем таталітарнага рэжыму ў БССР, распаўсюджванні меркаванняў пра «русіфікатарскую і каланізатарскую палітыку Масквы», ідэалізацыі самабытнасці Беларусі і беларускай мовы, асуджэнні калектывізацыі. У гэты час допыты былі яшчэ не такія жорсткія, але 20 чалавек прызналі сябе вінаватымі. Іх паказанні і паказанні трох чалавек, якія праходзілі па справе сведкамі, сталі адзінымі падставамі для асуджэння. Кіраўнікі атрымалі па 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў, астатнія — ад 3 да 5 гадоў. Некаторым пазней лагеры замянілі на высылку за межы БССР.

У другой палове 1933 — першай палове 1934 года адбыліся працэсы над «беларускімі здраднікамі і польскімі шпіёнамі». Усе яны праходзілі па справе адной тэрарыстычнай і контррэвалюцыйнай арганізацыі, якая мела публічную назву Беларускі Нацыянальны Цэнтр (БНЦ).

Паводле версіі спецслужбаў (агентурная справа «Закардоннікі»), БНЦ быў створаны ў Польшчы беларускімі дзеячамі, якія там знаходзіліся: С. Рак-Міхайлоўскім, П. Мятлой, М. Бурсевічам, І. Дварчаніным і інш., якія прыехалі ў БССР у 1930 і 1932 гадах. Усе абвінавачванні будаваліся на паказаннях чальцоў арганізацыі, якія былі атрыманыя з прымяненнем фізічных метадаў уздзеяння і іншых незаконных метадаў вядзення следства. Галоўнае абвінавачванне — падрыхтоўка звяржэння савецкай улады з дапамогай Польшчы і ўсталяванне ў Беларусі буржуазнай рэспублікі пад польскім пратэктаратам.

У лістападзе 1933 года пачаліся судовыя працэсы. Яны праходзілі ў рэгіёнах (над філіямі БНЦ), і мелі адносна мяккія прысуды — ад 1 да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Але ўжо ў пачатку 1934 года сітуацыя змянілася. 9 студзеня 40 чалавек былі прыгавораныя да расстрэлу, 25 з іх расстралялі ў Мінску ў траўні, астатнім замянілі расстрэл на 10 гадоў лагераў, дзе яны і зніклі. Яшчэ 15 чалавек адразу прыгаварылі да 10 гадоў лагераў. Усяго па справе БНЦ былі рэпрэсаваныя 161 чалавек, якія ў большасці былі накіраваныя ў Салавецкія лагеры і ў Комі АССР. У 1937 годзе 70 чалавек з асуджаных у студзені 1934 года былі расстраляныя.

Усе асуджаныя як па справе БНГ, так і па справе БНЦ былі рэабілітаваныя ўжо ў 1956 годзе — за адсутнасцю складу злачынства.

## Сучаснасць

З таго часу шмат чаго змянілася ў свеце — цывілізацыя, пабудаваная на падмурку дэмакратычных прынцыпаў і выканання правоў чалавека, дасягнула развіцця, пра якое ў 1930-я гады беларусы нават падумаць не маглі. У нечым змянілася і беларускае следства. Так, замест паказанняў арыштаваных абвінавачванне часцей будуецца на аўдыё- ці відэазапісах іх размоў, зробленых спецслужбамі. І тэрміны пакарання ўжо больш мяккія, асуджаных застаюцца ў Беларусі.

Але выкарыстанне дзяржавай палітычных працэсаў, як і тры вышэй названыя мэты палітычных судовых працэсаў, застаюцца. Прэзідэнцкія выбары, якія адбыліся 9 жніўня 2020 года ў Беларусі, прайшлі са шматлікімі парушэннямі, беларусы засталіся незадаволеныя іх вынікамі і пачалі масавыя мірныя пратэсты. Улада аказалася не ў стане хутка вырашыць праблему і звярнулася, як і ў 1930-я гады, да ўжо праверанах метадаў палітычна матываваных судовых працэсаў.

У Мінску Следчы камітэт пачаў крымінальную справу па факце парушэння грамадскага парадку ў выніку масавых акцый 1 лістапада. Справа ўзбуджаная па ч. 1 арт. 342 КК Беларусі (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх). «1 лістапада бягучага года на тэрыторыі сталіцы прайшлі несанкцыянаваныя масавыя мерапрыемствы, падчас якіх затрыманыя некалькі сотняў грамадзян, якія груба парушылі грамадскі парадак», — гаворыцца ў паведамленні ведамства.

Следчыя палічылі дзеянні дэманстрантаў відавочным «непадпарадкаваннем патрабаванням прадстаўнікоў улады», якія пацягнулі парушэнне работы транспарту і арганізацый. Акрамя таго, фігурантаў справы абвінавачваюць у пашкоджанні гарадской інфраструктуры і аўтамабіля органаў унутраных спраў. Падазраванымі па справе праходзяць 231 чалавек, яны ўжо дапытаныя. КК прадугледжвае для іх пакаранне ў выглядзе штрафу, арышту або абмежавання волі на тэрмін да трох гадоў, або пазбаўлення волі на той жа тэрмін. Пакуль судовыя працэсы не адбыліся, цяжка меркаваць аб маштабах падабенства з 1930-мі гадамі. Але колькасць людзей, супраць якіх высунутыя абвінавачванні — 231 чалавек! Міжволі цягне на параўнанне. Пры жаданні можна знайсці сярод іх не адну тэрарыстычную ці дыверсійную групоўку, філіялы шпіёнскіх рэзідэнтур і іншае.

Яшчэ болей падабенства назіраецца з распачатай крымінальнай справай супраць Каардынацыйнай рады апазіцыі Беларусі.

Аб стварэнні Каардынацыйнай рады заявіла 14 жніўня экс-кандыдат у прэзідэнты краіны Святлана Ціханоўская. 19 жніўня ў Мінску адбылося першае пасяджэнне, на якім была прынятая Рэзалюцыя з асноўнымі патрабаваннямі да ўладаў: спыненне гвалту і палітычнага пераследу, расследаванне таго, што адбылося падчас акцый пратэсту, вызваленне ўсіх палітычных зняволеных і выплата кампенсацый пацярпелым, прызнанне несапраўднымі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 9 жніўня і правядзенне новых выбараў. У дакуменце ўказваецца, што мэтай КР з'яўляецца пошук шляхоў для пераадолення крызісу ў Беларусі і забеспячэння згоды ў грамадстве на падставе Канстытуцыі. «Каардынацыйная рада не ставіць сваёй мэтай змяненне канстытуцыйнага ладу і знешнепалітычнага курсу», — падкрэслівалася ў Рэзалюцыі.

Лукашэнка, аднак, заявіў, што лічыць будучую дзейнасць гэтага органа «спробай захопу ўлады ў краіне».

20 жніўня генпракурор Аляксандр Канюк паведаміў аб узбуджэнні крымінальнай справы па факце стварэння Каардынацыйнай рады. Справа распачатая па 361-м артыкуле Крымінальнага кодэкса «Заклікі да дзеянняў, скіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь» і прадугледжвае пакаранне да 5 гадоў пазбаўлення волі.

16 кастрычніка Галоўнае следчае ўпраўленне Следчага камітэта паведаміла, што працягвае расследаванне крымінальнай справы: «У ходзе расследавання атрыманыя доказы, якія сведчаць аб здзяйсненні асобнымі асобамі, якія ўваходзяць у склад арганізацыі, названай Каардынацыйная рада, дзеянняў, накіраваных на дэстабілізацыю сацыяльна-палітычнай, эканамічнай і інфармацыйнай абстаноўкі ў краіне, прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь».

У лік асобаў, якія прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці, трапіла і Святлана Ціханоўская, якая абвешчаная ў міждзяржаўны вышук.

## Мне не было страшна

На допыце ў Следчым камітэце па справе КР, на якім я прысутнічала сама, я ўвесь час думала пра тое, як на аналагічных допытах падобныя мне людзі амаль 90 год таму таксама даверліва распавядалі следчаму пра свае меркаванні і назіранні і незаўважна і хутка рабіліся са сведак абвінавачванымі. І як яны баяліся — за свой лёс, за лёс родных і сяброў.

Прад'яўленыя мне матэрыялы, здабытыя падчас следства, яшчэ больш умацавалі мае прадчуванні. На падставе гэтых матэрыялаў мяне лёгка запісаць у «ідэйныя натхняльнікі» стварэння КР, як калісьці было з Езавітавым у справе БНГ.

Але ёсць прынцыповыя адрозненні ад тагачасных падзей. Мне не было страшна. Нават тады, калі следчы на развітанне ўхіліўся падаць руку. Дасягненне трэцяй мэты палітычных судовых працэсаў — пад вялікім пытаннем. І ў гэтым ёсць надзея.

# Аляксандр Цярохін: «Вы галасавалі

**Аляксандр Цярохін, 27-гадовы рабочы з Барысава, увечары 9 жніўня ішоў каля цэнтральнай плошчы роднага горада. Там сабралася шмат людзей, якія пасля галасавання чакалі абвяшчэння вынікаў выбараў.**



**«Як жа гэта дзіка: мірныя людзі, ні ў чым не вінаватыя, выйшлі выказаць свой пункт гледжання, пачуць вынікі выбараў, але супраць іх ужылі гвалт»**

— Мы думалі, што з Барысаўскага райвыканкаму выйдуць чальцы выбарчай камісіі з пратаколамі і абвесцяць вынікі, — распавядае Аляксандр. — Але так і не дачакаліся — бюлетэні вывезлі тайна.

Людзям жа сказалі, што гэта несанкцыянаваны мітынг, і супрацоўнікі праваахоўных органаў у чорнай форме выціснулі іх з плошчы. Потым падключылася і мясцовая міліцыя. Людзі сталі разбягацца, але іх даганялі, білі дубінкамі, калі падалі — нагамі па галаве. Затрымлівалі вельмі жорстка. Там былі і пенсіянеры, і цяжарныя жанчыны, і дзеці гадоў 10–12, якія плакалі, калі на іх вачах бацькам заломвалі рукі. Гэта было вельмі страшна!

Сілавік штурхнуў жанчыну, яна ўпала і зламала руку. Гэта было зафіксавана на відэакамеру — здымаў супрацоўнік РУУС. Я падышоў і сказаў: «Вы бачыце?! Што гэта такое, чалавеку зламалі руку!» Ён адказаў: «Ідзі па-добраму адсюль, пакуль не атрымаў!»

Мы з суседкай пакінулі плошчу і пайшлі дадому, за намі пабеглі двое супрацоўнікаў, выхапілі мяне, паклалі на асфальт і сталі біць дубінкамі: па галаве, спіне, руках, нагах — каля 10 удараў. Потым утрох схапілі за рукі-ногі і пацягнулі ў аўтазак.

Мяне запхнулі ў вузкую адзіночную камеру, потым «падсялілі» другога чалавека. Мы крычалі, што няма чым дыхаць, прасілі адчыніць люк. Ніхто не рэагаваў. Каля 20 хвілін мы сядзелі, задыхаючыся, пакуль сілавікі лавілі іншых людзей, і потым паехалі ў Барысаўскі РУУС.

Там нас — чалавек 40 — паставілі да сценкі на заднім дворыку, дзе знаходзяцца гаражы для спецтранспарту. Каля дзвюх гадзін мы стаялі на расцяжцы. Калі супрацоўнікам нешта не падабалася, білі па нагах.

Вядома ж, ніхто не прадстаўляўся, пасведчанне не паказваў, правы нам не тлумачыў. Супрацоўнікі мясцовай міліцыі былі без масак, але пераварочвалі свае пагоны, каб мы не вызначалі званні.

Потым сталі складаць пратаколы. Я запомніў час затрымання — каля 23-й гадзіны. У пратаколе ж стаяла 00:10, і месца таксама не супадала.

Усе пратаколы былі як пад капірку: знаходзіўся там і там, выкрыкваў лозунг «Народ з намі супраць дзейнай улады!» Мне сказалі: «Давай, хутка падпісвай, час ідзе!» Я напісаў на пратаколе: «Не згодны».

Усе былі ў глыбокім псіхалагічным стрэсе, у кагосьці была зламаная рука, але на просьбы пра дапамогу не рэагавалі. Прасілі вады — піць не давалі. Афармілі дакументы і перавялі людзей у ІЧУ — у будынку РУУС.

У камеры на восем чалавек стаялі чатыры двух’ярусныя ложкі. Нас спачатку было трое, потым шасцёра, а потым — каля дзесяці. Раніцай пакармілі сняданкам — на дзесяць чалавек далі сем порцый.

Хлопца са зламанай рукой павезлі ў лякарню, а нас адправілі на дактыласкапію. Потым пачаўся суд, я звярнуў увагу на нестыкоўкі з месцам і часам. Суддзя сказала, што няма падставы не давяраць супрацоўнікам, якія складалі пратакол, і вынесла прысуд — 15 сутак.

Бліжэй да ночы павезлі ў Жодзіна, толькі цяпер ужо нас у камеры было трое — усяго ў аўтазаку знаходзілася каля 50–60 чалавек. Паветра не хапала. Трэба было вызваліць месца ў РУУС, таму што былі новыя затрыманні. Калі мы выязджалі, на асфальце ляжала шмат людзей. Супрацоўнікі РУУС сказалі:

# Раман Зайцаў: «З’язджаць не хачу, хачу

**Ад падзеяў 9 жніўня мінула тры месяцы. «Радыё Свабода» даведалася, як яны прайшлі для хлопца, які ледзь не загінуў ад выбуху гранаты ў цэнтры Мінску.**

Пасля выбараў 9 жніўня будаўнік Раман Зайцаў прачнуўся калі не знакамітым, то дакладна больш вядомым, чым раней. Фотаздымак рэпарцёра «Свабоды» Уладзя Грыдзіна, на якім з-пад абстрэлу святлашумавымі гранатамі і гумавымі кулямі выносяць акрываўленага Рамана, пабачылі сотні тысяч беларусаў, яго апублікавалі іншаземныя СМІ.

Пасля той ночы Раман каля месяца правёў у Вайсковым шпіталі і, са словаў лекараў, выжыў ледзьве не цудам. Цяпер ён з сям’ёй — у Горках, дзе пакрысе вяртаецца да нармальнага жыцця.

У размове са «Свабодай» Раман расказаў, ці не шкадуе пра той вечар ля стэлы, чаму больш не ходзіць на акцыі пратэсту і ці збіраецца з’язджаць з краіны.

### «Усё было дакладна так, як паказваюць у фільмах»

«Я з Горак. У прынцыпе, і жыву тут, у Мінску я працаваў, — пачынае ўзгадваць падзеі вечара 9 жніўня Раман. — І жыў там на здымнай кватэры на час працы. У Горках працу знайсці цяжка. Я будаўнік. Кожныя выхадныя прыязджаў дадому. Хацеў і 9 жніўня прыехаць у Горкі, прагаласаваць тут, але была праца — і не ўдалося. Таму мы з сябрам вырашылі пайсці на мірную акцыю, такім чынам унесці свой уклад. Прыйшлі. Некаторыя станцыі метро тады ўжо былі закрытыя, паехалі аўтобусам. Да стэлы. Прыйшлі, стаялі там. Людзей ужо шмат было — паабапал вуліцы, на ўзгорках, на самой вуліцы».

Паводле яго, гэта ўсё адбывалася прыкладна ў 23 гадзіны. Усе стаялі, «ніхто не правакаваў нічога». Максімум чалавек 10 выстаўлялі сметніцы на праезную частку.

«Сілавікі пачалі кідаць святлашумавыя гранаты. Але спачатку на дарогу, не ў натоўп. А потым пад’ехалі джыпы з рамкамі, вадамёт пачаў паліваць людзей. Стала зразумела, што зараз будзе разгон, пачнуць біць. Мы з сябрам вырашылі адтуль сыходзіць. Але праз некалькі секундаў я адчуў моцны ўдар у грудзі і выбух», — прыгадвае Раман.

Пра тое, што ў яго на грудзях разарвалася святлашумавая граната, Раман даведаўся значна пазней, ад лекараў. Хлопец расказвае, што зусім не бачыў, адкуль яна прыляцела, і нават не зразумеў, што адбылося.

«Я нічога больш не чуў, — кажа ён. — Упаў, усё было запаволена — дакладна так, як паказваюць у фільмах. Папоўз да травы, з рота лілася кроў. Сам увесь у крыві быў. Прапоўз я метраў сем. А потым усё, упаў. Мяне падабралі нейкія хлопцы, аднеслі далей ад сілавікоў, да “хуткай”. Там быў адзін мужчына. Ён назваўся былым вайскоўцам і загадаў прынесці скотч, каб заклеіць мае раны. Далучыўся фельчар “хуткай”, мне паставілі кропельніцу, зрабілі ін’екцыю. Я ўсё памятаю, быў у прытомнасці. Памятаю, як павезлі ў “хуткай”. Пэўны час вырашалі, куды мяне везці, каб я не памёр у дарозе. Так і гаварылі адкрыта. Я тады думаў, каб мяне хоць куды хутчэй адвезлі».



Фота Радыё Свабода

### Лекары не спадзяваліся, што ён выжыве

Раман кажа, што бачыў сваю руку з адарванымі палечнікамі, косткі, але болю не было. Напачатку яго адвезлі ў 2-ю лякарню, там Раман страціў прытомнасць. Назаўтра параненага перавезлі ў Вайсковы шпіталь. Лекары не спадзяваліся, што ён выжыве.

«Я калі апрытомнеў, то дактары дзівіліся, — кажа Раман. — Казалі, што я малойца. Праходзілі побач і так і гаварылі — глядзі ж ты, выжыў. Яшчэ тыдзень я правёў у рэанімацыі, потым перавялі ў хірургію. Аперацыяў шмат было, нават не магу сказаць, колькі. Каля дзесяці, напэўна. На мне не было жывога месца. Шылі, чысцілі раны. Агулам я недзе месяц у лякарні быў. Там да мяне вельмі добра паставіліся. І лекары, і ўсе».

Раман расказвае, што сачыў за падзеямі ў краіне, пакуль ляжаў у шпіталі. Тэлефон у яго амаль адразу забралі следчыя, але жонка прывезла іншы. Тады ж Раман змог пабачыць зробленыя 9 жніўня ля стэлы фотаздымкі, з-за якіх ён стаў знакамітым.

«Мне жонка іх паказала, — кажа хлопец. — Прыехала ў хірургію да мяне, пацікавілася, ці хачу я іх паглядзець. У мяне псіхіка ўстойлівая, таму я нармальна на іх глядзеў. Натуральна, падзеі тыя зноў адчуваюцца, калі гляджу на фота. Але нармальна ўспрымаю гэта. Жонка пабачыла фота ў першую ж ноч. Ёй расказала родная сястра, яна сачыла за падзеямі. Убачыла фота і пазваніла Аліне, усе вельмі моцна перажывалі».

### «Пазнала па ланцужку»

Раман Зайцаў і яго жонка Аліна гадуюць дваіх дзяцей. Старэйшаму — 5 гадоў, малодшай толькі споўніўся год. Аліна расказвае, што ўвечары 9 жніўня клалася спаць спакойная, бо думала, што Раман нікуды не пойдзе.

«Ён мне ў дзевяць гадзін вечара пазваніў з Мінску і сказаў, што неўзабаве кладзецца спаць, — кажа Аліна. — Я паверыла, у панядзелак цяжкі дзень на працы заўсёды. А ў дзве гадзіны

# не за таго, каго трэба»

«Калі вы будзеце фанабэрыцца, то проста не даедзеце да Жодзіна». І дадалі: «Вы галасавалі не за таго, каго трэба. Той, хто трэба, будзе да канца».

У Жодзіне пасля ўсіх аглядаў быў і медагляд. На скаргі нам адказвалі: «Пабаліць і перастане».

Потым змясцілі ў камеру на дзесяць чалавек. У першую ноч там было восем чалавек, на наступны дзень дадалі яшчэ дзесяць, а на трэці — нас стала каля 30. Дыхаць не было чым. Спаць было складана, драмалі па два-тры чалавекі на ложку, хтосьці седзячы, хто як змог.

Ежы выдавалі дзесяць порцый на ўсіх, 2 боханы хлеба на 30 чалавек, і неяк хаатычна: сняданак далі — абед не далі, ці абед далі — вячэры не далі.

Усе выгоды — туалет без сценкі і дзвярэй. Вада з моцным пахам хлоркі — піць яе немагчыма. На шпацыр за ўсе шэсць сутак не вадзілі ні разу, у душ таксама. Неяк не па-чалавечы ставіліся.

У камеры мы проста ляжалі, немагчыма было рухацца ад недахопу кіслароду. Мы прасілі адчыніць «кармушку», каб хоць неяк паветра паступала. Не адчынілі. Маглі загадаць: «Не ляжаць, не сядзець!»

Затое перапісвалі нас неаднаразова. Шукалі журналістаў, замежных грамадзян.

У нашай камеры былі затрыманыя ад 18 да 40 гадоў: незалежныя назіральнікі, выбарнікі, назіральнікі ад ініцыятывы «Честные люди», праграмісты, рабочыя з «Кераміна», з МТЗ, з жодзінскага кавальскага заводу. Былі іншаземцы: літовец, украінцы, расіяне — іх потым забралі з камеры.

Некаторыя скардзіліся, што выйшлі ў краму — і іх затрымалі, пазначыўшы ў пратаколе іншае месца і час. Да кагосьці прыйшлі дадому а 6-й раніцы і забралі з нейкіх выдуманых прычын.

З Акрэсціна прывозілі людзей, у якіх не было на руках ні дакументаў, ні пратаколу. І праз трое сутак іх выпускалі без нічога.

З Акрэсціна паступалі людзі моцна пабітыя: велізарныя сінякі, гематомы — у туалет хадзілі крывёю, не маглі ні хадзіць, ні сядзець, ні ляжаць. Такое адчуванне, быццам па іх рота прайшлася. Прасілі паклікаць лекара, аказаць дапамогу… Было страшна.

Праз пару дзён пачалі прыносіць перадачы. Праўда, невядома, праз які час іх перадалі — некаторыя прадукты былі сапсаваныя.

Праз шэсць сутак мяне вывелі з камеры, сказалі, амністыя. Быццам бы жодзінскі пракурор адмяніў прысуд. За знаходжанне ў СІЗА спагналі 54 рублі.

Я прыехаў дадому, ачуўся і звярнуўся ў суд для азнаямлення са справай. Убачыў тыя ж 15 сутак, а пра амністыю — нічога. Дагэтуль не магу зразумець, за што я адбываў пакаранне. І чаму так усё адбываецца.

Да затрымання я працаваў аператарам па дамове падраду ў Жодзіне, потым адпрацаваў яшчэ тыдзень, і мне сказалі, што нібыта ходзяць чуткі пра тое, што занадта шмат гавару супраць дзейнай улады, што магу быць завадатарам якога-небудзь мітынгу на прадпрыемстве. Паведамілі, што я не прайшоў выпрабавальны тэрмін і са мной скасоўваюць дамову. Я кажу: «Ок, давайце распішуся, дзе трэба». Мне адказалі: «Нічога не трэба, проста здай вопратку».

Пасля таго, як я вярнуўся з Жодзіна, звярнуўся ў медычны цэнтр, прайшоў абследаванне, зафіксаваў пабоі. Вярнуўся дадому — каля пад'езда мяне ўжо чакалі супрацоўнікі міліцыі. З цэнтру ім паведамілі, што звяртаўся такі і такі грамадзянін, які паведаміў, што падчас мірнага мітынгу супрацоўнікі міліцыі ўжылі фізічную сілу. І ім трэба было, каб я даў тлумачэнне.

Мне сказалі, што я альбо «тлумачу» так, як мне скажуць, альбо паедзем у РУУС для далейшага разбору. Я падумаў, што калі раптам знікну, то ніхто пра гэта нават не даведаецца, і даў тлумачэнне: калі бег падчас мітынгу, проста спатыкнуўся і ўпаў.

Але як жа гэта дзіка: мірныя людзі, ні ў чым не вінаватыя, выйшлі выказаць свой пункт гледжання, пачуць вынікі выбараў, але супраць іх ужылі гвалт. Праваахоўныя органы зрабілі ўсё, каб людзі адчулі фізічны і псіхалагічны боль. Так жорстка! За што? За тое, што людзі проста ходзяць па вуліцы, размаўляюць, дыхаюць, нічога нікому не робяць, не б'юць вітрын, не пераварочваюць машын. У той дзень я нават уявіць не мог, што можа быць такі тэрор. Калі б прадстаўнікі, работнікі дзяржаўных органаў падлічылі галасы, выйшлі да людзей і паведамілі вынікі, людзі б проста разышліся па хатах.

Удары, гематомы сышлі, застаўся боль у спіне, ды пасля таго, як білі па галаве, пагоршыўся зрок. Але з'явілася трывога, страхі па начах, неспакой, што зноў могуць прыйсці, лішні раз баішся нешта па тэлефоне сказаць. Ад усяго гэтага вельмі цяжка адысці. Часам як нахлыне, гэтыя карцінкі ўсплываюць у галаве, хочацца нават плакаць. Я хачу перамагчы свае страхі.

Калі выходзіў з Жодзіна, у калідоры праводзілі прафілактычную размову: не даваць ніякіх інтэрв'ю, нічога не расказваць журналістам, праваабаронцам. Сказалі, што ў іх усюды ёсць свае людзі, усё гэта выплыве — і нам мала не здасца: зробяць так, што мы не шэсць сутак адбывалі, а аж да крымінальнай адказнасці. І я ведаю, многія сыходзілі і цяпер маўчаць. А людзі ў форме адчуваюць сваю беспакаранасць.

Мне ж губляць няма чаго, у мяне няма ні мамы (я страціў яе тры гады таму), ні таты, ні сям'і. Трэба нешта мяняць. Я разумею, што адзін нічога не зраблю. Але пасля таго, як выйшаў з турмы Жодзіна і мяне сустрэлі незнаёмыя людзі — накармілі, абагрэлі, аказалі медыцынскую дапамогу — зразумеў, што я не адзін, народ згуртаваўся. Нельга пакідаць усё, як ёсць, інакш усё сыдзе з рук, сыдзе на нішто. Такое не павінна працягвацца. Мы самі маем права выбіраць свой лёс.

**August2020**

# справядлівасці»



ночы мне пазваніла сястра, якая жыве ў Чэхіі. Яна пісала спачатку, але інтэрнэту не было. Сястра спытала: дзе Рома? Я кажу, што ён спіць. Тады сястра расказала, што бачыла фота ў тэлеграме. І там у чалавека такі ж ланцужок, як у Ромы. Яго тады шмат хто пазнаў па тым ланцужку. Сястра мне таксама расказала, што Рому маглі завезці ў 2-гі шпіталь. Я пачала яму званіць, тэлефон недасяжны. Сябрам яго набрала, пачула, што яны на вуліцы, самі шукаюць майго мужа. У мяне пачалі трэсціся рукі, я зразумела, што гэта ён на тым здымку».

Каб знайсці мужа, Аліна пачала званіць 103, пасля ў шпіталь. Там паведамілі, што Раман на тэрміновай аперацыі. Пра гранату не расказалі, толькі сказалі, што моцна паранены.

«Адразу пасля ранення Рамана мне пачалі пісаць у інстаграме, што гэта ўсё пастаноўка, — расказвае Аліна пра наступныя падзеі. — Што муж у грыме, што насмярэч з ім нічога не здарылася. Каментары там дагэтуль ёсць такія, я не выдаляла. Пісалі, што не было чаго яму туды хадзіць, бо дома жонка і двое дзяцей. Пасля, калі нам пачалі збіраць грошы, зноў пайшлі каментары. Маўляў, няма чаго выпрошваць. Пісалі, што нічога не зменіцца ўсё адно. У твар таксама казалі такое. Знаёмыя ў тым ліку. Я магла выйсці ў краму і атрымаць такое ў твар. Гэта было, пакуль Рома ў лякарні быў. Цяпер перасталі».

### «Цяпер не працую, які з мяне работнік»

«У нас горад невялікі, тут хадзілі чуткі, што я не выжыву, — расказвае Раман. — Усе перажывалі. Знаёмыя, родныя, нават незнаёмыя. Мяне цяпер пазнаюць ужо, незнаёмыя людзі жадаюць папраўляцца, паляпшэння самаадчування. Я ў Горках з пачатку верасня, вярнуўся адразу пасля выпіскі. Цяпер не працую, які з мяне работнік. На будучыню вяду перамовы. Планую, як можна далей працаваць з кампаніяй, з якой раней супрацоўнічаў. Дзяцей гадую. Старэйшага ваджу ў садок, дапамагаю ў доме жонцы. У краму хаджу».

Раман прызнаецца, што раны «моцна баляць», і патрэбен час, «пакуль усё гэта зажыве».

«Лекары кажуць, што на рэабілітацыю трэба паўгода. На пачатку лістапада будзе аперацыя на вушах, барабанныя балоны не зрасліся. Трэба рабіць перасадку. Але інваліднасці не будзе. Я нармальна чую. Не так, як раней, але нармальна. Жонцы даводзіцца гучней са мной размаўляць».

**«Я калі апрытомнеў, то дактары дзівіліся, — кажа Раман. — Казалі, што я малойца. Праходзілі побач і так і гаварылі — глядзі ж ты, выжыў. Яшчэ тыдзень я правёў у рэанімацыі, потым перавялі ў хірургію»**

Будаўнік расказвае, што грашыма яму дапамаглі беларусы з-за мяжы, а таксама сябры. Ёсць свой запас, на які цяпер жыве сям'я Рамана. Ягоная жонка Аліна пакуль у дэкрэце і таксама не працуе.

«Заявы ў Следчы камітэт я не пісаў, яны самі завялі справу, — працягвае сваю гісторыю хлопец. — Цяпер мне прыходзяць адпіскі. СК накіроўваў запыты ў МУС, тыя адказваюць, што з іхнага боку парушэнняў не было. Груба кажучы, так, я даслоўна не памятаю, што яны там пішуць. Ніякага руху ў бок нейкай праўды, пакарання вінаватых я не назіраю. Усе разумеюць, чаму так адбываецца. Ніхто не хоча цяпер разглядаць нашы справы».

Паводле яго, сілавікі самі не ведаюць, што будзе далей.

«Зразумела, з якога боку прыляцела мне гэтая граната. Але хто яе запускаў? Які канкрэтна чалавек? Ведаю, што супраць некаторых пацярпелых ля стэлы пачалі справы. Але мяне пакуль не выклікалі нікуды. Я званіў свайму следчаму даведацца, як усё прасоўваецца. Ён сказаў, што справу ў яго забралі і перадалі іншаму. На гэтым усё, я нават не ведаю, хто цяпер займаецца маёй справай. Ніхто са мной больш не звязваецца».

Параненыя падчас акцыяў могуць з'ехаць на лячэнне альбо рэабілітацыю за мяжу — у Чэхію, Літву, Польшчу альбо Латвію. Раман кажа, што не хоча так рабіць. Надалей ездзіць да лекараў у Мінск, кажа, што там да яго ставіцца надзвычай добразычліва.

«Я хачу тут жыць, у Беларусі, не хачу нікуды з'язджаць, — кажа Раман. — Навошта мне куды ехаць хавацца? Я хачу, каб справядлівасць у нас усё ж перамагла. Спадзяюся, што так і адбудзецца, што вінаватыя будуць пакараныя і жыццё вернецца на нармальны шлях. Натуральна, калі пачнецца пераслед, я вывезу адсюль сваю сям'ю. Але так з'язджаць я нікуды не збіраюся».

Раман і ягоная жонка Аліна не сталі хаваць ад старэйшага сына таго, што адбылося з бацькам. З іхных словаў, 5-гадовы Мацвей пакуль успрымае гэтую гісторыю як нешта несур'ёзнае.

«Мы яму расказалі, — кажа жонка Рама. — Цяпер, калі ў яго спытацца: “Мацьвей, што з татам?” — то ён адказвае, што тата падарваўся на гранаце, што ў яго раны і няма пальцаў. Сын яшчэ не ўсведамляе, наколькі сур'ёзна ўсё было. Гэта для яго як гульня, як нейкі фільм».

### «Напачатку я шкадаваў, што пайшоў туды»

Раман з Алінай гавораць, што не вялі «сур'ёзных размоваў» пасля таго, як ён вярнуўся ў Горкі. У сям'і няма рознагалоссяў наконт таго, што цяпер адбываецца ў Беларусі.

«Напачатку я шкадаваў, вядома, што пайшоў да стэлы, — прызнаецца хлопец. — У шпіталі быў зусім у бездапаможным стане. Натуральна, былі думкі, што калі б не пайшоў, то ўсё было б нармальна. Але цяпер разумею, што калі б там са мной не здарылася гэтага, то я дагэтуль хадзіў бы на ўсе акцыі. Такая ў мяне пазіцыя зараз. Пакуль не хаджу нікуды. Нават не змагу ўцячы са сваімі ранамі. Бегаць я яшчэ не магу. Але мы кожную нядзелю сочым за тым, што адбываецца ў Мінску. Гэта ўжо абавязковая наша праграма. Кожны дзень сочым за навінамі».

Хлопец кажа, што тады, на пачатку жніўня, і нават у сам дзень выбараў, ніхто не чакаў такога жорсткага разгону. На думку Рамана, гэта стала адной з прычынаў такіх значных паслявыбарчых пратэстаў.

«Людзі выходзяць, бо разумеюць, што гэта ўсё няправільна, — кажа хлопец. — Народ не хоча маўчаць. Колькі пакалечаных, нават забітыя. Як гэта ўсё можна дараваць? Мне падаецца, што людзі ўжо наеліся ўсяго. Трэба, каб штосьці змянілася. У лепшы альбо ў горшы бок. У кожным разе ў будучыні ўсё адно будуць перамены да лепшага. Я сам пайшоў тады на стэлу, калі пачуў пра 80%, якія прагаласавалі за Лукашэнку. Гэта было апошняй кропляй. Ніхто за яго не галасаваў, нікога няма ў маім атачэнні, хто б яго падтрымліваў. Адзін сябра толькі такі. Мы не перасталі сябраваць, але палітычных тэмаў не закранаем».

# Гарэлка і паўстанне

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні 190-х угодкаў лістападаўскага паўстання 1830–1831 года вялікую цікавасць выклікае версія, што яго галоўнай прычынай быў алкаголь.**

У падручніках гісторыі асноўную ролю ў лістападаўскім паўстанні традыцыйна адводзілі падпольным патрыятычным арганізацыям, якія мелі падтрымку перш за ўсё сярод афіцэраў. Апошніх ісці ў падполле матывавала ідэя аднаўлення незалежнай Рэчы Паспалітай, большая частка якой у 1830 годзе была адміністрацыйнай адзінкай Расійскай імперыі пад назвай Царства Польскае.

Арганізаваць бунт афіцэрам дапамагла частка грамадства, незадаволеная рэпрэсіўнымі мерамі Санкт-Пецярбурга. У 1819 годзе ў Царстве Польскім была ўведзеная папярэдняя цэнзура, якой да гэтага часу Польшча не ведала. Скліканне чарговага Сейма доўгі час адцягвалася з-за абрання туды нелаяльных дэпутатаў. Некаторых з іх давялося нават арыштаваць па дарозе на сесію. Пасля гэтага Сейм імкліва прыняў усе законы, прадстаўленыя яму расійскім імператарам.

Між тым частка цяперашніх гісторыкаў лічыць, што гэтых прычын для паўстання недастаткова. Абсалютную большасць жыхароў краю тэма парушэння царом Канстытуцыі наўрад ці цікавіла. Не кажучы пра тое, што Царства Польскае карысталася значна большымі прывілеямі, чым суседнія заваяваныя і паглынутыя дзяржавы. У Царстве Польскім быў уласны ўрад, свая Канстытуцыя, свая грашовая сістэма, свая армія. Вядома, на троне сядзеў кіраўнік іншай краіны, але з моманту заканчэння дынастыі Пястаў такая сітуацыя была звыклай.



Невядомы аўтар. «Эпізод паўстання 1831 года»

Эканоміка, асабліва землянробства, вельмі добра развівалася, паколькі прадукцыя ішла на вялікі расійскі рынак збыту. Пра тое, што царская ўлада не асабліва турбавала жыхароў Царства Польскага, маўляў, таксама сведчыць, песня «Boże, coś Polskę», якая і па гэты дзень уваходзіць у спіс польскага патрыёта. Між тым, песня была напісаная да святкавання першай гадавіны стварэння Царства Польскага і каранацыі Аляксандра І.

Што ж тады стала прычынай паўстання? Такім фактарам, на думку гісторыка Гжэгаша Браўна, была дзейнасць валынскага абруселага яўрэя Лявона Наваховіча, які купіў ва ўрада Царства Польскага манаполію на алкаголь і піва. У выніку набыць гэты тавар, прычым па новых, больш высокіх коштах, можна было толькі ў крамах, як бы цяпер сказалі, «сетакі Наваховіча». Любы іншы вытворца алкаголю быў абавязаны прадаваць сваю прадукцыю на склад бізнесоўца.

Відавочна, што нейкі працэнт ад барышоў манапаліст аддаваў мясцовым чыноўнікам. Без іх дапамогі было б немагчыма стварыць на гарадскіх заставах сістэму патрулёў, якія змагаліся б з кантрабандай. Быў нават створаны адмысловы «спецназ», які з дубінкамі ў руках хадзіў па шынках і правяраў, ці няма ў меню ўстановы нелегальнай гарэлкі. З улікам месца алкаголю ў славянскай культуры няма нічога дзіўнага, што атмасфера ў Царстве Польскім па ўзроўні напружанасці неўзабаве стала нагадваць Злучаныя Штаты часоў «сухога закона».

**Царства Польскае карысталася значна большымі прывілеямі, чым суседнія заваяваныя і паглынутыя дзяржавы. У Царстве Польскім быў уласны ўрад, свая Канстытуцыя, свая грашовая сістэма, свая армія**

Пра гэта ўскосна сведчаць і антыўрадавыя пракламацыі, якія з'явіліся ў Варшаве акурат напярэдадні паўстання. Тыя афішы заклікалі варшавян расправіцца не з расійскімі акупантамі ці палякамі, якія дапамагалі царскаму рэжыму. Пагрозы ў пракламацыях былі адрасаваныя кіраўніку сталіцы і Наваховічу.

Між тым, 29 лістапада патрыёты-афіцэры, баючыся, што польскую армію адправяць душыць бельгійскую рэвалюцыю, паднялі паўстанне. У 6 гадзін вечара афіцэр Пётр Высоцкі ўвайшоў у казарму падхарунжых і прамовіў свой славуты лозунг пра тое, што надышоў час помсты. 162 кадэты забілі сваіх камандзіраў, выйшлі на вуліцы Варшавы і заклікалі мінакоў далучацца.

Аднак насельніцтва не паддалося энтузіязму. Буржуа элітнага Кракаўскага прадмесця, наадварот, дэманстратыўна зачынялі вокны і дзверы. Паўстанне было на мяжы паразы, калі б не насельніцтва бедных раёнаў. Тлум дапамог афіцэрам-праўстанцам узяць штурмам арсенал і здабыць зброю. Праўда, як высветлілася, шмат каму зброя спатрэбілася з адной мэтай, — адправіцца рабаваць алкагольныя крамы Наваховіча. Відавочцы казалі, што люмпены пілі і весяліліся ўсю ноч. Паколькі на руках у іх была зброя, сцішваць натоўп было вельмі небяспечна. Да таго ж многія салдаты далучыліся да гэтага сабантую.

Лідары паўстання на фоне рабаванняў і калектыўнага п'янства спачатку былі ў паніцы. Яны баяліся не толькі рэваншу з боку верных цару жаўнераў і хаосу ў горадзе, але таксама яўрэйскіх пагромаў (фігура Наваховіча выклікала ў многіх пачуццё антысемітызму). Аднак потым зразумелі, што да раніцы, калі ўсё будзе выпіта, народ супакоіцца. Прыкладна ўвечары наступнага дня Варшава вярнулася ў звыклы рытм жыцця — і інсургенты пачалі ствараць новыя органы ўлады.

Калі пагадзіцца з версіяй Браўна, атрымліваецца, што менавіта алкаголь падняў палякаў на адвазнае паўстанне. «Без гарэлкі не было б паўстання», — рэзюмуе гісторык у сваіх тэкстах. У дадзеным выпадку, напэўна, больш слушнай была б іншая выснова: як вучыць у тым ліку гісторыя лістападаўскага паўстання, ніякіх гарантый для ўлады ад пратэстаў не існуе. Калі ў грамадстве ёсць пратэставыя настроі, нават маленькая непрыкметная пабытавая дробязь можа стаць рэвалюцыйным іскрай.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Стварэнне прарасійскай партыі "Саюз" — чарговая дымавая заслона рэжыму Лукашэнкі з мэтай пралангацыі расійскай дапамогі. Партыя "Саюз" у самым лепшым варыянце мае перспектывы на праходжанне ў беларускі парламент толькі ў якасці "ручной і кіраванай апазіцыі". Гэтая партыя легітымізуе шматвектарны курс Мінска: маўляў, так захацеў народ. Трэба шукаць іншыя шляхі прасоўвання расійскіх інтарэсаў у беларускім грамадстве».

**Красная весна (Расія)**

«Уплыў Злучаных Штатаў у самой Беларусі дастаткова мінімізаваны, няма адносінаў на ўзроўні паслоў на сённяшні дзень. У Лукашэнкі былі некаторыя крокі ў бок наладжвання адносінаў з рэспубліканцамі, але гэтыя спробы праваліліся. У дэмакратаў няма традыцыйных рычагоў уздзеяння на беларускую эліту. Таму працягнецца стымуляванне беларускай апазіцыі звонку, але ўнутраных структур, апазіцыйных Лукашэнку, збудаваць не атрымаецца».

**Страна (Украіна)**

«Ультыматум (Ціханоўскай на адрас улады) не спрацаваў, але, шчыра кажучы, мала хто думаў, што ён спрацуе. Такое згортванне актыўнасці тлумачыцца некалькімі прычынамі. Па-першае, халоднае надвор'е, па-другое, каронавірус, па-трэцяе, боязь непрапарцыйнага прымянення гвалту. І, па-чацвёртае, нейкая форма пратэставай стомленасці, хаця рашучасць захоўваецца».

**Le Monde (Францыя)**

«Многія назіральнікі лічаць, што чарада падзей пасля прэзідэнцкіх выбараў 9 жніўня — не што іншае, як паўнавартаснае нацыянальнае абуджэнне. Але пабудаваць дэмакратычнае грамадства яшчэ давядзецца. Добрая ж навіна ў тым, што за апошнія тры месяцы барацьбы з Лукашэнкам беларусы прадэманстравалі незвычайны талент да імправізацыі і арганізацыі структур грамадзянскай супольнасці. Гэты вопыт валанцёрства і ўключэння грамадскасці бясцэнны, і ён паслужыць падмуркам для будучай грамадзянскай супольнасці».

**Atlantic Council (ЗША)**

«Апошнія гады Лукашэнка праводзіў палітыку збліжэння з ЕС і пахаладання адносінаў з Расіяй. Аднак цяпер гэтае жахлівае для Крамля развіццё падзей малаверагоднае. Заходнія дзверы для Лукашэнкі зачыніліся. У гэтай сітуацыі ў Расіі ёсць усе магчымасці вызваліцца ад ненадзейнага партнёра і стварыць умовы для нармалізацыі сітуацыі ў Беларусі і стымулявання двухбаковых адносін. Аднак на цяперашні момант перашкодаў існуючыя перашкоды не ўдалося. Галоўная праблема — сам Лукашэнка, які пераконвае свайго калегу Уладзіміра Пуціна, што альтэрнатывы яму проста няма».

**Observador (Партугалія)**

«Пуціна ў дадзены момант пачынае раздражняць гісторыя з пераваркай беларускіх нафтапрадуктаў у расійскіх партах. Літаральна месяц таму Лукашэнка заяўляў, што Літва, Латвія, Польшча і ЗША ладзяць у Беларусі "каляровую рэвалюцыю", таму ніякіх адносін з імі ён мець не будзе. Прайшоў месяц, але воз і цяпер там. Усе нафтапрадукты ідуць праз Прыбалтыку. Зноў пачаліся размовы, што трэба наладжваць з Захадам адносіны, праводзіць шматвектарную палітыку. Таму расійская пазіцыя тут будзе даволі жорсткай. Хочаце танную нафту, тады аддавайце кантрольны пакет нафтаперапрацоўкі. Не хочаце — ну, прабачце, нам гэта таксама асабліва не трэба».

**Известия (Расія)**

# Каталікам паўсюль цяпер дарога

Алег НОВІКАЎ

**Аказваецца, Джо Байдэн стаў другім у гісторыі ЗША прэзідэнтам-каталіком пасля Джона Кенэдзі. Літаральна пару-тройку дзесяцігоддзяў таму ў такі сцэнар было цяжка паверыць — з улікам папулярнасці ў Злучаных Штатах антыкаталіцкіх стэрэатыпаў.**


Фота www.vedomosti.ru

На фоне цяперашняй бітвы за Белы дом можа застацца не заўважнай вельмі важная гістарычная дата. Роўна 300 гадоў таму, 21 лістапада 1520 года, у Паўночную Амерыку прыбылі першыя каланісты з Брытаніі. Можна ўпэўнена казаць, што перасяленцы, якія былі фанатычнымі пратэстантамі, прынеслі ў Новы свет і антыкаталіцкія забабоны.

Галоўным чынам гэта з'ява тлумачыцца тэалагічнай спадчынай Рэфармацыі, лідары якой крытыкавалі Рым, называючы каталіцкую царкву нават «вавілонскай блудніцай». Пазней рэлігійныя фобіі на адрас каталікоў узмацніла звычайная бытавая ксенафобія, выкліканая прыбыццём у Злучаныя Штаты мігрантаў з Лацінскай Амерыкі.

Усё гэта знайшло адлюстраванне ў палітычным працэсе ЗША, тон у якім задавалі выключна белыя пратэстанты. Многія палітыкі ахвотна выкарыстоўвалі антыкаталіцкія клішэ — ды прыпісвалі ўсім клієнтам Касцёлу таемную сувязь з Ватыканам. Не дзіўна, што штотыднёвая антыкаталіцкая газета The Menace, якая выходзіла ў XIX стагоддзі ў штаце Місуры, мела наклад 1,5 мільёна асобнікаў.

Відавочна, што мясцовым каталікам, якія спрабавалі пайсці ў вялікую палітыку, было няпроста. Сваёй кульмінацыі антыкаталіцкая агітацыя дасягнула ў 1928 годзе, калі нечакана някепскія шанцы стаць прэзідэнтам атрымаў каталік, былы губернатар Нью-Ёрку Альфрэд Сміт. Ён быў абраны намінантам ад дэмакратычнай партыі.

Апаненты Сміта ператварылі яго веравызнанне ў чорны піяр. Па ўсёй краіне пратэстанцкія святары заклікалі падтрымаць рэспубліканца Герберта Гувера, які быў квакерам, і галасаваць супраць дэмакрата. Укаранялася думка пра «асаблівыя адносіны» кожнага шчырага каталіцкага верніка да ўраду дзяржавы, дзе той жыве. Маўляў, на самай справе ў душы кожны каталік падпарадкоўваецца выключна Папе Рымскаму. Каталіцкая царква, як сцвярджалася ў адным з маніфестаў рэспубліканцаў, варожая амерыканскім прынцыпам. У ход пайшла нават байка, што каталікі — спрэс аматары рому — абавязкова адменяць «сухі закон». Прадстаўнікам штабу Сміта даводзілася даваць клятву, што яны не з'яўляюцца шпіёнамі Ватыкана.

У выніку клерыкальная тэматыка і стала прычынай буйной паразы Сміта на выбарах. Ён атрымаў 40,8% галасоў, яго супернік Герберт Гувер — 58,2%. Зрэшты, нават сярод дэмакратаў было шмат тых, хто баяўся трансфармацыі арганізацыі ў партыю каталікоў.

«Антыкаталічкай» лічылася Элеанор Рузвельт — жонка Франкліна Рузвельта. Некаторыя чальцы амерыканскай адміністрацыі выступалі супраць стварэння NATO, паколькі яго кіраўніцтва могуць захапіць еўрапейскія каталікі, нібыта схільныя да вайсковых канфліктаў у абарону веры.

Не дзіўна, што Джону Кенэдзі пра яго каталіцтва пачалі нагадваць яшчэ падчас праймерыз на выбарах 1960 года. Калі ж пачалася асноўная фаза кампаніі, рэспубліканцы дасталі напрацоўкі кампаніі супраць Сміта. Група святароў заявіла, што ў выпадку перамогі Кенэдзі прэзідэнцкая адміністрацыя будзе падпарадкоўвацца Рыму.

Аднак часы крыху змяніліся — і прэса раскрытыкавала спробы выкарыстаць рэлігію ў палітычнай антырэкламе. У сваю чаргу, Кенэдзі трымаў дыстанцыю ад службовых асоб каталіцкай царквы. У шырока разрэкламаванай прамове перад групай святароў-пратэстантаў ён казаў: «Я не каталіцкі кандыдат у прэзідэнты. Я — дэмакрат. Я не кажу ад імя маёй царквы па грамадскіх пытаннях — і царква не гаворыць за мяне».

У выніку антыкаталіцкая мабілізацыя рэспубліканцаў правалілася. Затое яна выклікала групавую салідарнасць каталікоў, якія шляхам галасавання за Кенэдзі заклікалі да палітычнай роўнасці. У выніку на ўчастку прыйшлі (і галасавалі за прадстаўніка дэмакратаў) 80 працэнтаў каталікоў, што ў тым ліку забяспечыла Кенэдзі перамогу.

Парадаксальна, аднак канчатковы прысуд забабонам наконт каталікоў дазволіла падпісаць моладзевая рэвалюцыя 1960–1970-х гадоў. Рэвізія культурных і сямейных каштоўнасцяў, альтэрнатыўны лад жыцця маладых амерыканцаў не падабаўся ні каталікам, ні пратэстантам. Таму на выбарах 1980-га абедзве рэлігійныя групы аб'ядналіся вакол кандыдата-рэспубліканца Рональда Рэйгана, які ў выпадку перамогі абяцаў кансерватыўны рэванш. Гэты трэнд працягнуўся і ў далейшым. Прыкладна з 2000 года палова электарату рэспубліканскай партыі, якая ў свой час актыўна прасоўвала антыкаталіцкую тэму, складаюць наведвальнікі касцёлу.

Сітуацыя трошкі змянілася ў нулявых гадах праз серыю сексуальных скандалаў з удзелам каталіцкіх святароў. У красавіку 2008 года Gallup выявіў, што колькасць амерыканцаў, якія станоўча ставяцца да амерыканскіх каталікоў, скарацілася да 45%. Аднак кампанія Джо Байдэна сведчыць, што гэта быў, хутчэй, эпізод. Падчас выбараў тэма таго, што Байдэн — каталік, увогуле не гучала. Хаця той рэгулярна наведвае прыход у штаце Дэлавэр і любіць падкрэсліць факт свайго веравызнання на аўдыторыі. Увогуле, хутчэй за ўсё, сваёй прыхільнасцю да каталіцтва Байдэн абавязаны ірландскім караням сваіх бацькоў, якія і прывялі яго ў царкву.

Цікава, аднак, што пра каталіцтва Байдэна падчас выбараў згадвалі біскупы. Некаторыя адкрыта выказвалі сумневы ў тым, што Байдэн — «сапраўдны каталік», паколькі выступае за тое ж права на аборты і шлюбы для геяў. А нейкі святар са штату Тэнэсі нават пагражаў палітыку «божай карай». Зрэшты, гэта ўсё гучала хутчэй як кур'ёз. Перамога Джо Байдэна давяла, што эра антыкаталіцкіх настрояў у Злучаных Штатах засталася ў мінулым.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Андрэй Білецкі



Лідар праварадыкальнай украінскай партыі «Нацыянальны корпус» узначаліў грамадскі рух за тое, каб Украіна перанесла на Данбас карабахскі вопыт. Нагадаем, што 8 лістапада азербайджанскія войскі ўзялі горад Шуша, які мае ключавое стратэгічнае значэнне для Карабаху. Гэта змусіла Ерэван падпісаць перамір'е, згодна з якім большая частка рэгіёну адыходзіць Азербайджану. Такім чынам, упершыню ў гісторыі СНД мы назіраем паспяховы прыклад збройнага вырашэння тэрытарыяльнага пытання.

Перамога Баку натхніла частку украінскіх нацыяналістаў, у тым ліку Андрэя Білецкага, на тое, каб паўтарыць поспех Алиева. Яны прапануюць украінскім уладам неадкладна перайсці ў наступ на Данбасе, і нават праводзяць паралелі паміж Шушай і Горлаўкай, падзенне якой, нібыта, прымусіць Данбас капітуляваць. Галоўны аргумент за неадкладны наступ заключаецца ў тым, што Расія не выступіла ў абарону Карабаху, а таму, магчыма, не стане падтрымліваць і сепаратыстаў.

Усім відавочна, што ўдзел у канфлікце наўрад ці магчымы з улікам антырэкордаў, якія Украіна б'е па статыстыцы заражэння COVID-19. Акрамя таго, украінская эліта вельмі моцна цяпер залежыць ад пазіцый Захаду, які да прыходу Байдэна ў Белы дом застаецца расколатым. Нарэшце, летам 2014 года Расія ў крытычныя для ДНР-ЛНР моманты аказвала прамую дапамогу сепаратыстам.

### Марцін Віскара



Упанядзелак, 9 лістапада, 57-гадовы цяпер ужо экс-прэзідэнт Перу заявіў, што мае намер падпарадкавацца рашэнню парламента краіны, які прагаласаваў за яго адхіленне ад улады. «Будучы пераканаым дэмакратам, паведамляю, што, нягледзячы на нязгоду з вынесеным сёння Кангрэсам рашэннем, я пакіну Дом ураду і вярнуся дадому», — сказаў палітык.

Літаральна за некалькі гадзін да гэтага парламент прагаласаваў за імпічмент. Рашэнне падтрымалі 105 са 130 дэпутатаў. Прэзідэнта прызналі «маральна недзеяздольным», паколькі яму ставіцца ў віну карупцыя падчас знаходжання на пасадзе губернатара аднаго з дэпартаментаў. У прыватнасці, яго абвінавачваюць у атрыманні хабару ў памеры больш за 630 тысяч долараў пры заключэнні кантрактаў на будаўніцтва аб'ектаў інфраструктуры. У сваіх выступах некаторыя дэпутаты таксама спалучалі абвінавачванні ў хабарніцтве з крытыкай антыкрызіснага кіравання Віскары з-за пандэміі. З прыкладна 32 мільёнаў жыхароў Перу сёння больш за 922 000 захварэлі на COVID-19.

Цікава, што прэса называе адстаўку Марціна Віскары «дзяржаўным пераваротам» і адзначае, што карумпаваныя дэпутаты хочуць выратавацца ад антыкарупцыйнай кампаніі гаранта.

### Іван Туманаў




Кіраўнік штабу Навальнага ў расійскім горадзе Уладзімір прыдумаў новы фармат супрацьву пуцінскаму рэжыму, які, калі верыць апазіцыі, рэгулярна фабрыкуе вынікі галасавання. На заклік Івана Туманава ўсе апазіцыйныя кандыдаты ў гарадскі савет Уладзіміра стварылі альтэрнатыўны гарсавет, які будзе працаваць паралельна афіцыйнаму органу ўлады.

Гэтаму папярэднічала перамога «адзінаросаў»: у верасні гэтага года яны перамаглі ва ўсіх 25 аднамандатных акругах горада — і, як вынік, новы склад гарадскога парламента аказаўся на 100% сфарміраваны з прадстаўнікоў партыі «Адзіная Расія». Адказам на манаполію «адзінаросаў», якія, як кажуць крытыкі, «не здольныя абараняць правы і інтарэсы жыхароў», і стала стварэнне альтэрнатыўнага савета.

Альтэрнатыўны гарсавет аб'яднаў абсалютна палярныя ідэалагічныя сілы. Туды ўвайшлі экс-кандыдаты ад КПРФ, ЛДПР, «Справядлівай Расіі» і «Яблока», а таксама самавылучэнцы. Па словах Туманава, чальцы альтэрнатыўнага гарсавета спадзяюцца, што змогуць уносіць ініцыятывы на разгляд рэальнага прадстаўнічага органа. Цікава, што ў «рэальным» гарсавеце віталі стварэнне такой арганізацыі, але паралелі ёй узаемадзейнічаць з грамадскай палатай.

# Ці магчымы іншы канец дыктатуры, акрамя смерці саміх дыктатараў?

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**Ці ёсць мяжа тэрору, перайшоўшы праз якую тыраны перастаюць прыцягваць суграмадзян, ці ў генацыду, як і ў дасканаласці, няма межаў? Пра што думалі, што адчувалі тыя, хто галасаваў за дыктатараў, не ведаючы — ці ведаючы? — што заўтра акажуцца ў камеры катаванняў?**

Сярод трагедый, што страсянулі свет у ХХ стагоддзі, рэальны камунізм — грандыёзны феномен эпохі, якая распачалася ў 1917 годзе і скончылася ў Маскве ў 1991-м, — займае адно з самых значных месцаў. Нарадзіўся ён раней за фашызм ды нацызм і перажыў іх на шмат гадоў, закрануўшы чатыры кантыненты.

Каб захаваць уладу, камуністычныя рэжымы пераходзілі ад злачынстваў адзінкавых, ад разні абмежаванай, выкліканай абставінамі, да злачынстваў масавых, да тэрору як сродку кіравання.

Злачынствы камунізму — гэта злачынствы супраць духу, супраць культуры наогул і нацыянальных культур у прыватнасці. Гэта масавыя забойствы людзей, гібель мужчын, жанчын, дзяцей.

Расправа ажыццяўлялася самымі рознымі спосабамі: расстрэл, павешанне, утапленне, забіванне да смерці; смерць у выніку штучна выкліканага голаду, пакіданне ахвяры на волю лёсу і забарона аказваць ёй дапамогу; дэпартацыя — смерць падчас транспартавання (перасоўванне пешкі ці ў непрыстасаваных вагонах), у месцах высылкі і прымусовых прац (знясільваючая праца, хваробы, недаяданне, холад). Выкарыстоўваліся таксама баявыя атрутныя рэчывы, арганізоўваліся аўтамабільныя катастрофы.

Прыроду гэтых злачынстваў вызначае артыкул 6 Статуту Нюрнбергскага трыбунала, у якім згадваюцца тры асноўныя іх віды: супраць міру, ваенныя злачынствы, злачынствы супраць чалавечнасці. Даследуючы ў сукупнасці злачынствы, здзейсненыя ленінска-сталінскім, а затым і іншымі камуністычнымі рэжымамі, мы сустракаемся з гэтымі трыма катэгорыямі.

Паняцце злачынства супраць чалавечнасці ўключае шэраг дакладна вызначаных злачынстваў. Самым характэрным з іх з'яўляецца генацыд. Генацыд не заўсёды бывае таго тыпу, які абрынулі нацысты на габрэяў і цыган, — яго ахвярамі могуць стаць і сацыяльныя групы. У кнізе рускага гісторыка-сацыяліста Сяргея Мельгунова «Чырвоны тэрор у Расіі», выдадзенай у Берліне ў 1924 годзе, прыводзіцца інструкцыя, якую даў адзін з першых шэфаў Надзвычайнага камітэта Лацiс сваім памагатым: «Мы не вядзём вайны супраць канкрэтных асобаў, — піша Лацiс 1 лістапада 1918 года. — Мы нішчым буржуазію як клас. Не шукайце на следстве матэрыялу і доказаў таго, што абвінавачаны дзейнічаў словам ці справай супраць савецкай улады. Першае пытанне, што вы мусіце яму задаць, якога ён паходжання, выхавання, адукацыі ці прафесіі. Гэтыя пытанні і павінны вызначыць лёс абвінавачанага».

Бальшавікі вырашылі знішчыць фізічна, надаўшы гэтаму законную форму, любую апазіцыю, любы супраціў, хай нават і пасіўныя, іх уладзе. Знішчэнню падпадалі не толькі палітычныя, але і сацыяльныя групы, такія, як дваранства, буржуазія, інтэлігенцыя, духавенства, а таксама групы прафесійныя — армейскія і флоцкія афіцэры, чыны жандармерыі і г.д.

Раскулачванне 1930–1932 гадоў было паўторам расказачвання ў значна больших маштабах. Здзейсненае па загадзе Сталіна, яно праводзілася пад афіцыйным лозунгам: «Ліквідацыя кулацтва як класу».

Класавы генацыд у чымсьці сыходзіцца з генацыдам расавым: галодная смерць дзяцей кулака, ахвяр сталінскага рэжыму, «цягне на вагах» столькі ж, колькі галодная смерць габрэйскага дзіцяці ў гета, ахвяры рэжыму нацысцкага. Знак роўнасці паміж двума гэтымі фактамі ні ў якім разе не закрывае выключнасці «асвенцымскага феномену»: мабілізацыі сучасных тэхнічных сродкаў для наладжвання самага сапраўднага «прамысловага працэсу» — будаўніцтва «фабрыкі знішчэння» з выкарыстаннем газу і крэмацыйных печаў.

Але падкрэслім усё ж адну асаблівасць шмат якіх камуністычных рэжымаў: сістэматычнае выкарыстанне голаду як зброі — улада імкнецца ўзяць пад кантроль усе наяўныя харчовыя запасы і праз сістэму рацыянавання (часцяком даволі складаную) пераразмяркоўваць іх у залежнасці ад «заслуг» тых ці іншых суб'ектаў.

**Міжнародную канвенцыю пра неўжывальнасць тэрміну даўнасці да ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва падпісала і наша краіна. І, значыць, няма ім тэрміну даўнасці**

Метады, пушчаныя ў ход Ленінам і ўзведзеныя ў сістэму Сталінам, не толькі падобныя да метадаў нацыстаў, але з'яўляюцца іх папярэднікамі. Нацысты былі шмат у чым першымі камуністаў.

Рудольф Гес, арганізатар і камендант лагера ў Асвенцыме, пакінуў знамянальнае сведчанне: «Кіраўніцтва Імперскай Бяспекі загадала даставіць камендантам лагераў досыць падрабязную дакументацыю, якая тычыцца рускіх канцэнтрацыйных лагераў. Сведчанні відавочцаў, уцекачоў з гэтых лагераў, далі нам ясную карціну ўмоваў тамтэйшага жыцця. Варта асабліва падкрэсліць, што шлях, абраны рускімі для знішчэння цэлых папуляцый, палягаў у выкарыстанні людзей на катаржных працах».



Аднак той факт, што маштабы і метады масавага гвалту былі ўпершыню ўведзеныя камуністамі, і нацысты маглі толькі пераняць гэты досвед, не азначае ўсё ж, што можна ўсталяваць прамую сувязь паміж прыходам бальшавікоў да ўлады і з'яўленнем нацызму.

На мяжы 1920-х і 1930-х гадоў ГПУ паклала пачатак метаду ўстанаўлення квотаў: кожная вобласць, кожны раён павінны былі арыштаваць, выслаць ці расстраляць пэўны працэнт асобаў, якія належаць да «чужых сацыяльных груп». Гэты працэнт спускаўся зверху як партыйная дырэктыва. Вар'яцтва планавання і ўліку, манія статыстыкі захапілі не толькі сферу эканомікі, але і вызначылі тактыку і стратэгію тэрору.

З 1920 года бальшавікі сталі ўжываць гэтыя статыстычныя, нават сацыялагічныя метады: ахвяры адбіраліся па строга вызначаных крытэрах, на падставе анкет, запаўнення якіх ніхто не мог пазбегнуць.

Той жа самы «сацыялагічны» метад ужываўся Саветамі пры арганізацыі масавых высылак з Балтыйскіх дзяржаў і акупаванай часткі Польшчы ў 1939–1941 гадах. Перавозка высланых у таварных вагонах — абавязковая дэталь такіх акцый — падавалася настолькі важнай, што ў 1943–1944 гадах, у самы разгар вайны з нацыстамі, Сталін палічыў магчымым адклікаць з фронту тысячы вагонаў і дзясяткі тысяч салдат спецыяльных войскаў НКУС, каб у самы кароткі тэрмін правесці масавую дэпартацыю народаў Каўказа.

Думка пра падабенства нацызму і камунізму ў тым, што датычыцца іх метадаў знішчэння людзей, шмат каму можа падацца блюзнерскай. Але гэта толькі на першы погляд. Удар наносіцца не столькі па канкрэтнай асобе, колькі па групе людзей. Гэта група, вызначаная дзеячамі тэрору як «варожая», з'яўляецца часткай грамадства, і, паводле логікі генацыду, яна выкараняецца менавіта як група. І тады механізмы сегрэгацыі і адрынання, уласцівыя «класаваму таталітарызму», становяцца дзіўна падобныя да метадаў «расавага таталітарызму».

Жудасць вымагае тлумачэння. Сталін і Гітлер. Гром авацый у СССР і Германіі, пераўтвораных у філіялы НКУС і гестапа. Мільёны жыццяў, якія страцілі сэнс і цану. І смерць, якая стала штодзённасцю, універсальным спосабам вырашэння праблем паміж чалавекам і ўладай.

Ці быў сэнс у гэтых крывавых спектаклях? Чаму яны карысталіся такім поспехам у сучаснікаў? Ці ёсць мяжа тэрору, перайшоўшы праз якую тыраны перастаюць прыцягваць суграмадзян, ці ў генацыду, як і ў дасканаласці, няма межаў? Пра што думалі, што адчувалі тыя, хто галасаваў за дыктатараў, не ведаючы — ці ведаючы? — што заўтра акажацца ў камеры катаванняў? У што верылі дзясяткі мільёнаў, якія чакалі вырашэння свайго лёсу ў той час, калі мільёны ўжо былі знішчаныя ва ўсіх на вачах? Ці магчымы іншы канец дыктатуры, акрамя смерці саміх дыктатараў? І, нарэшце, самае важнае і самае цяжкае пытанне: дзе шукаць гарантыі, што ўсё гэта не паўторыцца зноў?

Думка, якая спрабуе зразумець, што здарылася з нашай (ды і не толькі з нашай) краінай, як зачараваная, застывае перад падрабязнасцямі крывавага тэрору, шматзначнымі лічбамі страт і злавеснымі постацямі забойцаў. Гнеў і страх паралізуюць нас — і замест аналізу мы чуем праклёны.

Тут патрэбна не навука, тут патрэбен свой Нюрнберг. Але асудзіць тэрор і паставіць помнікі яго ахвярам і тым, хто змагаўся супраць злачынстваў, недастаткова. Помнікі можна знішчыць, можна забыць, каму яны пастаўлены. Толькі аналіз, разуменне і публічнасць могуць сарваць з таталітарнай улады яе містычнае покрыва і даць калі не гарантыю, то шанец на тое, што мінулае не вернецца.

Любая стабільная ўлада таму і стабільная, што псіхалагічна яна задавальняе шмат каго. Каб зразумець уладу, а не толькі вінаваціць яе, неабходна ўсвядоміць, якія нашы запатрабаванні задавальняліся такім паталагічным чынам.

Без гэтага які-небудзь новы энтузіяст таталітарызму зможа ўваскрэсіць яго пад нязвыклым абліччам, і мы занадта позна зразумеем, што забароны на алкаголь і курэнне могуць не так моцна адрозніваца ад знакамітай трубкі і любові да добрых грузінскіх вінаў. Безумоўна, важна зразумець, што «Сталін памёр учора», але яшчэ важней распазнаць, чаму Сталін «жывы» і сёння.

Нацысты планавалі пабудаваць сваё будучае грамадства на аснове «чысціні расы», камуністы — на аснове пралетарыяту, вычышчанага ад усякай «буржуазнай брыдоты». Пераробка двух грамадстваў задумвалася ў падобнай манеры, нават калі крытэры пазбаўлення ад непажаданых і былі рознымі.

Калі план прызначаны для ажыццяўлення ў сусветным маштабе, а нейкая частка чалавецтва абвяшчаецца нявартай гэтага новага ідэальнага свету, то адрозненне ад нацызму толькі ў адным: тут — страты (класы), там — раса.

Нельга таксама не звярнуць увагу на дзіўны кантраст. Пераможцы 1945 года законна паставілі ў цэнтр свайго прысуду нацызму яго злачынствы, і асабліва генацыд рэяў. З тых часоў на гэту тэму напісаныя сотні кніг, знятыя дзясяткі фільмаў. Аднак няма такога кшталту даследаванняў камуністычных злачынстваў.

Калі чалавека зняважылі страхам, прынізілі яго права быць чалавекам — пра гэта прынамсі неабходна памятаць. Страта чалавечай годнасці мае дзве стадыі. Спачатку чалавек прымае знявагу як непазбежнасць, потым — наогул забывае, што яго зняважылі. Гэта значыць, успрымае знявагу як штосьці належнае.

Менавіта з такой меркай трэба ставіцца да таго, што ў Беларусі забываліся і забываюцца злачынствы сталінізму, — як да знішчэння пачуцця нацыянальнай годнасці цэлага народа. Няўжо знішчэнне чужога народа — злачынства, а свайго ўласнага — палітычны перагіб, тэарэтычная памылачка?

Ёсць у Крымінальным кодэксе артыкул пра адказнасць за ўтойванне злачынстваў. Паводле яго можна абвясціць злачынцам, да прыкладу, маці, якая не змагла данесці на роднага сына як на «ворага народа». Але затое ні разу гэты артыкул не тычыўся асобаў, што маюць уладу, калі тыя хавалі злачынствы сваіх папярэднікаў.

Міжнародную канвенцыю пра неўжывальнасць тэрміну даўнасці да ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва падпісала і наша краіна. І, значыць, няма ім тэрміну даўнасці. Значыць, злачынна хаваць дакументы пра гэтыя злачынствы, злачынна хаваць месцы масавых расстрэлаў і пахаванняў. Не па-чалавечы гэта.

# Ганна Севярынец: Беларусы — як Фенікс, што раптам адчувае сваю сілу

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Адкуль у беларусаў з'явілася адчуванне «другаснасці», што нам гавораць расстраляныя паэты, і як беларуская літаратура стала «беллітам»? Даследчыца і настаўніца Ганна Севярынец распавядае пра гэта ў мінскіх дварах.**

Выступ, з якім Ганна Севярынец наведвае мінчукоў, і не толькі ў іх дварах, называецца «Непаслухмяныя дзеці рэвалюцыі». Ён прысвечаны беларускім літаратарам, якія трапілі пад сталінскія знішчэнні. Але разам з тым — усім нам сучасным, бо сёння мы зноў перажываем хвалю рэпрэсій. І галасы тых — маладых, сапраўды геніяльных, забітых — праз 80 гадоў нарэшце могуць дакрычацца да нас, іх імёны цяпер — не толькі на зжаўцелых старонках архіваў, але і на вуснах вольных беларусаў.

Пачынаючы з 1795 года кожныя 25–35 гадоў беларусы спрабуюць даказаць сваё права «людзьмі звацца». 1795 год — паўстанне Тадэвуша Касцюшкі, 1830 — студэнты Віленскага ўніверсітэту, 1863 год — паўстанне Кастуся Каліноўскага, 1902 — «Наша Ніва», у 1925 — пачатак культурнага адраджэння на Беларусі, што задушвалася з 1929 па 1937 гады. Але ў 1960-я зноў падымаецца пакаленне Быкава, Адамовіча, Разанава, Барадуліна, якіх таксама заціскаюць у цэнзурныя межы. Потым — 1990-я гады, калі Беларусь у гэтым 30-гадовым цыкле атрымлівае незалежнасць, якую потым таксама заціснулі. І вось — 2020-ты год.

— Беларусы — як птушка Фенікс, якая кожныя 30 гадоў раптам адчувае сваю сілу. І калі мы кажам, што «мы не знали друг друга до этого лета», — нам не давалі знаць адзін аднаго. А тое, што мы моцныя і што мы шмат можам, ведаюць тыя, хто займаецца беларускай гісторыяй, — зазначае Ганна Севярынец. — І таму мы змагаемся і перамагаем не толькі за сябе і сваіх дзяцей, а за ўсе гэтыя пакаленні людзей, якіх з нашай памяці выкраслілі. У тым ліку за пакаленне нашых расстраляных паэтаў.

1925 год. Менавіта ім датаваны адзін з найбольш вядомых фотаздымкаў з'езду сяброў беларускага літаратурнага аб'яднання «Маладняк».

— З 1921 года Беларусь пачала аднаўляцца шалёнымі тэмпамі. У 1925 годзе ў нас ужо былі заводы, фабрыкі, БДУ і цэлая літаратура, якая раптам з'явілася на роўным месцы.

Самаму старэйшаму з маладнякоўцаў і іх кіраўніку, Міхасю Чароту, у 1925-м было 29 гадоў. Астатнім — 16, 17, 22, — і амаль усе яны ўжо мелі друкаваныя зборнікі.

— У 1925-м казалі: «Прыйшоў Чарот — за ім пяцьсот». Пяцьсот паэтаў у складзе самага вялікага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў на ўсёй савецкай прасторы.




Гэтых паэтаў, якія ў той час складалі гонар Беларусі, мала хто ведае і пра іх гаворыць, іх не вывучаюць у школе.

— Тыя, каго мы цяпер ведаем як класікаў — Пятрусь Броўка, Пятро Глебка — не стаялі ў першым шэрагу паэтаў таго пакалення, — зазначае Ганна Севярынец.

— Міхась Чарот, як і сучасныя школьнікі, таксама вельмі не любіў тое, што стварыла беларуская літаратура да яго. Ён лічыў, што старыя пісьменнікі пішуць прымітыўна, а беларуская літаратура павінна ісці ў нагу з еўрапейскай і быць складанай — як па думцы, так і па форме.

Чарот, чые партрэты дзяўчаты развешвалі на сценах, сярод іншага, быў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», якая тады была самай апазіцыйнай. Яна выдавалася толькі па-беларуску, на яе старонках выходзілі самыя скандальныя публікацыі, у якіх абараняўся беларускі погляд, і менавіта за яе Чарот у 1931 годзе быў выгнаны з усіх пасадаў, у 1937-м арыштаваны, а затым і расстраляны.

Гісторыя апошняга верша Чарота «Прысяга» надзвычай драматычная. Арыштаваны паэт год правёў у «амерыканцы» — сённяшнім СІЗА КДБ, якое з 1922 года выкарыстоўвалася як турма. Там і цяпер сядзяць беларускія палітвязні. У тую ж самую камеру, з якой у 1937-м вывезлі на расстрэл Чарота, у 1938-м трапіў яго сябра Мікола Хведаровіч. На сценах ён убачыў надрапаны верш, па почырку і подпісу зразумеў, хто яго аўтар, вывучыў напамяць, і толькі па вызваленні, адбыўшы лагерны тэрмін, данёс гэты верш да людзей.

*Я не чакаў*
*І не гадаў,*
*Бо жыў з адкрытаю душою,*
*Што стрэне лютая бяда,*
*Падружыць з допытам,*
*З турмою.*

*Прадажных здрайцаў ліхвяры*
*Мяне заціснулі за краты.*
*Я прысягаю вам, сябры,*
*Мае палі,*
*Мае бары, —*
*Кажу вам — я не вінаваты!*

Мала каму з таго пакалення паэтаў удалося не тое што выжыць пасля сталіншчыны, але і з трыумфам вярнуцца ў літаратуру. Адным з такіх быў Уладзімір Дубоўка.

— Ён выжыў, па-першае, бо фізічна быў волатам: меў два метры ростам, быў загартаваны. Аднойчы, калі ў сібірскім брудзе ў воза паламаліся колы і коні не маглі яго выцягнуць, Дубоўка падлез пад воз і выцягнуў яго на сваёй спіне. А па-другое, ён быў вельмі моцны душэўна, — распавядае Ганна Севярынец.

Дубоўку арыштавалі ў 1930 годзе, і вярнуўся з лагера ён у 1958-м, пасля смерці Сталіна, маючы за плячыма 10 гадоў лагероў, а потым — вечнае пасяленне.

— Гэта адзіны выпадак у сусветнай літаратуры, калі паэт праз 28 гадоў, не знаходзячыся ў літаратурным працэсе, не толькі вярнуўся ў літаратуру, але вярнуўся пераможцам. Уявіце сабе: у 1930-я гады яго выкінулі з жыцця, — а ён быў самым папулярным тагачасным паэтам Беларусі, завадатарам усіх паэтычных трэндаў. Дубоўка — гэта паэт, у якога вучыліся ўкраінскія творцы — мы не прывыклі думаць, што ў нашых паэтаў хто-небудзь вучыцца за мяжой. Калі яго арыштоўвалі, яму было 29, калі вярнуўся — 58. І пасля 28 гадоў сталіншчыны Уладзімір Дубоўка першы — і адзіны на сёння ў беларускай літаратуры — зрабіў поўны пераклад усіх санетаў Шэкспіра! І Дубоўку ў гэтай працы па сёння яшчэ ніхто не пераплюнуў.

Уладзімір Дубоўка вучыўся ў Маскве ў Брусаўскім інстытуце і быў улюбёным вучнем Брусава, выступаў на адной сцэне з Маякоўскім і Ясеніным — і рабіў гэта па-беларуску, хоць яго пераконвалі ў неабходнасці пісаць па-руску.

Апошні раз такая прапанова паступіла яму ў 1929 годзе, калі Дубоўка, які працаваў у Крамлі і перакладаў законы, сказаў, што яго перасталі друкаваць і ён баіцца, што можа быць арыштаваны. Яго паабяцалі абараніць, калі ён пяройдзе на рускую мову, але паэт адмовіўся, і праз некалькі месяцаў быў арыштаваны проста ў яго крамлёўскім кабінеце.

— Дубоўку выслалі ў Яранск, дзе людзі перабіваліся з брусніцаў на кару. І калі праз 5 гадоў яго адтуль забіралі, там ужо стаялі парнікі і ў іх раслі памідоры, — распавядае Ганна Севярынец. — Калі Дубоўка быў у лагеры ў самы страшны час — ваенны, лагер не карміў. Людзі звярэлі і расчалавечваліся, забівалі адзін аднаго. Тыя, хто быў з Дубоўкам у бараку, распавядалі, што ён іх выратаваў тым, што прымушаў кожную раніцу чысціць зубы. Бо чалавек павінен заставацца чалавекам нават у такіх невыносных умовах.

Яшчэ адзін беларускі паэт першай велічыні — Алесь Дудар, які прыйшоў у літаратуру ў 16-гадовым узросце, а загінуў — у 32.

— Ён быў паэт бліскучага таленту, густоўны і вельмі адукаваны, мог без слоўніка перакладаць з французскай, нямецкай, украінскай, польскай, рускай. Уявіце сабе, як нам увесь час укладалі ў галовы, што яны ў нас былі «з-пад сахі»!

Алесь Дудар — першы перакладчык на беларускую «Фаўста» Гётэ, «Яўгенія Анегіна» Пушкіна і «Жаніцьбы Фігаро» Бамаршэ. А яшчэ — самы першы ў беларускай літаратуры скандаліст.

— Ён распачаў тэатральную дыскусію на старонках «Савецкай Беларусі», дзе з'явіўся артыкул, што мы не хочам, каб у беларускіх тэатрах ставіліся рускія п'есы, у нас хапае сваіх драматургаў, і мы хочам глядзець свае п'есы на сваёй мове. Ён жа — адзін з аўтараў «ліста трох», калі тры пісьменнікі — Дудар, Зарэцкі і Александровіч — адлічыліся з БДУ на знак пратэсту супраць згортвання беларусізацыі.

Менавіта з Дудара пачаліся рэпрэсіі супраць маладых беларускіх паэтаў. У 1928 годзе Алесь Дудар напісаў верш «Пасеклі край наш папалам», за які ў 1929-м трапіў у ссылку.

Шмат кажуць пра тое, што ў сёлетніх беларускіх пратэстах — жаночае аблічча. Але беларускія жанчыны заўжды былі бясстрашнымі. Як, напрыклад, паэтка Зінаіда Бандарына.

Яна працавала перакладчыцай у газеце. Калі Дудар з Зарэцкім і Александровічам учынілі скандал у БДУ, Зіне з ЦК КПБ прынеслі ліст, у якім паэтаў гвазділі. Яна адмовілася перакладаць яго. Бандарыну тут жа звольнілі, выключылі з камсамола. Потым за яе заступіліся, аднавілі на працы, але яна адмовілася ад яе і з'ехала ў Сібір выкладаць беларускую мову і літаратуру ў школу для беларусаў, якіх там было вельмі шмат.

Валерый Маракоў быў адным з самых маладых, яго расстралялі ў 28. Улюбёнец Купалы, з ім звязана шмат вясёлых гісторый.

Аднойчы Маракоў перабягаў дарогу не ў тым месцы — сёння гэта праспект Незалежнасці ў бок Цэнтральнай кнігарні. Яго спыніў міліцыянер і аштрафаваў. Увечары Маракоў пайшоў на танцы і сустрэў там таго міліцыянера з дзяўчынай, і гэтую дзяўчыну Валерый у свайго крыўдзіцеля адбіў.

Ізі Харык — адзін з самых сур'ёзных ідышамоўных беларускіх паэтаў.

— Наша культурная сітуацыя абсалютна ўнікальная, бо беларускімі паэтамі лічаць сябе і тыя, хто піша па-беларуску, і тыя, хто піша па-руску, і тыя, хто піша па-польску, і тыя, хто пішуць на ідыш, — зазначае Ганна Севярынец.

Юлі Таўбін — таксама паэт з габрэйскай сям'і, аднак пісаў па-беларуску. Апроч таго, выдатна ведаў ідыш, нямецкую, італьянскую, рускую мовы. За свой кароткі век — на час расстрэлу яму не было і 26, — Таўбін паспеў не так шмат. Але гэта — вершы, якія лепш за ўсё «заходзяць» сучасным падлеткам.

Паэт, жыццё якога — метафара той нашай літаратуры, — Уладзімір Хадыка. Пра яго мала што вядома. У 1937 годзе яго не расстралялі, а саслалі ў лагер. Жонка нейкім чынам справіла яму новы цёплы кажух у дарогу. Едучы ў ссылку, Хадыка разумеў: нават калі ён памрэ, кажух пасля яго застанецца. Яго нехта будзе насіць. І была дамоўленасць: калі памірае Хадыка, кажух бярэ іншы, пасля — іншы, за ім — яшчэ нехта, і выносіць той кажух на свабоду. Таму за падкладкай у ім ляжалі вершы — Хадыка нейкім чынам мог пісаць у лагеры.

Хадыку адправілі працаваць на камяні. І зверху на яго скаціўся валун, заваліўшы разам з кажухом. І няма ні магілы Уладзіміра Хадыкі, ні кажуха, ні вершаў.

І гэта — толькі некалькі імёнаў з соцень таленавітых і трагічных гісторый нашай нацыянальнай літаратуры.

— Гэта была літаратура магутная — а магла быць яшчэ магутнейшая. Калі над імі ўжо быў скончаны працэс, і было зразумела, каго куды, 1 жніўня ў двары «амерыканкі» расклалі вогнішча з іх рукапісаў, лістоў і вершаў, якія адабралі пры вобшуках. І гэтае вогнішча з іх ненадрукаваных рукапісаў гарэла два тыдні, успамінаюць вязні. У ім згарэлі 102 вершы Алеся Дудара, больш за 30 вершаў Валерыя Маракова — яны ўсе праходзяць па актах арыштаў. Там згарэлі 2000 старонак рукапісаў Міхася Зарэцкага. У 1937 годзе з гэтым апошнім знішчэннем беларуская літаратура паспяхова ператварылася ў «белліт», і мы цяпер яго чамусьці вучым, нягледзячы на тое, што маем у спадчыне сапраўдную еўрапейскую літаратуру.

Але гэта, бадай, і ёсць нашая беларуская гісторыя: мы можам паўстаць з папялішча, на пустым месцы, і быць моцным народам, які ніхто не здолее знішчыць, як бы ні стараўся.

# Карона і вірус

Сяргей КАЙКО

**Да заканчэння футбольнага чэмпіянату краіны застаецца пара тыдняў, і ўжо можна дакладна сказаць: такога змрочнага, пакутлівага сезона мы яшчэ не ведалі. Яго першая палова прайшла ў абдымку з каронавірусам. Другую палову прыглушылі палітычныя падзеі ў краіне.**



Радасць жодзінскіх футбалістаў пасля перамогі ў Брэсце

Але лёс гуляў беларусамі — на маршах, на Акрэсціна, на дваровых канцэртах і ў «стаканах» аўтазакаў. А беларусы гулялі ў футбол — і паўсюдна правальваліся, прайгравалі, і нават не знаходзілі эмпатыі з боку заўзятараў.

Што ж, такія часы на двары. Цёмны час перад світанкам.

## Невыносная лёгкасць быцця

Зборная свой галоўны матч бяздарна зліла яшчэ ў кастрычніку, калі пакорліва саступіла ў Тбілісі грузінам у барацьбе за пуцёўку на EURO. Усё, што было да гэтага і будзе пасля, — дробязі жыцця. Нават калі каманда Міхаіла Маркеля возьме першае месца ў новай Лізе нацый, любы беларус можа ёй шчыра сказаць: учора трэба было так старацца. Не наеўся — не наліжашся.

Дый тое першае месца агорнута туманам, бо 15-га і 18-га лістапада пройдуць рашаючыя матчы (з літоўцамі і албанцамі), а шэрагі футбалістаў хістаюцца пад ціскам усё ж таго каронавіруса. Спачатку захварэў варатар Дзяніс Шчарбіцкі, і яго ізалявалі. Усё б нічога, бо адзін у полі не воін. Аднак ужо на гэтым тыдні covid-19 пайшоў у адкрытую атаку. Станоўчыя тэсты зафіксаваныя яшчэ ў траіх гульцоў — Аляксандра Гутара, Дзмітрыя Падстрэлава і Мікалая Золатава. Плюс нечым, падобным да «кароны», загадкава хварэюць Юрый Палякоў і Валерый Грамыка.

Аднак самае галоўнае з пандэміяй зусім не звязана. Ад выступу за зборную адмовіліся — і, відаць, канчаткова — тры ветэраны з ліку вялікіх аўтарытэтаў. Гэта Станіслаў Драгун, Аляксандр Мартыновіч і Павел Няхайчык. Ніхто з іх так і не патлумачыў прычыны дэмаршу, і гэта толькі ўзмацніла падазрэнні, што сярод матываў ёсць і палітычныя. Прынамсі, Няхайчык і Драгун гулялі апошнія матчы з белымі стужкамі, а апошні дык увогуле адзначыўся грамадзянскай пазіцыяй — у прыватнасці, асудзіў гвалт і падтрымаў затрыманую баскетбалістку Алену Леўчанка.

Вось так і вырулілася невыносная лёгкасць быцця. Яшчэ год таму ў нас была зборная, якая прэтэндавала на чэмпіянат Еўропы і якой заўзятары зычылі поспехаў, а цяпер каманда распаўзлася па швах, як стары кажух.

## Калі надыдзе заўтра

Няма чым хваліцца беларускаму футболу і ў еўракубках. Сёлета і тут амаль татальнае спусташэнне, а месцамі і ганьба. «Шахцёр» прайграў вясковай камандзе з Малдовы, на першай жа стадыі пад адхон паляцелі БАТЭ і мінскае «Дынама». «Дынама» брэсцкае яшчэ крыху поркалася — пераадолела два раунды Лігі чэмпіёнаў, аднак пасля склала крылы і яно.

Такія паршывыя справы, і пра гэта «Новы Час» ужо згадваў. Дадаць сёння можна толькі тое, што заўтра, паводле прагнозаў, будзе толькі горш. Таму што да гульнявых праблем, меркавана, прыплюсуюцца фінансавыя.

Уласна кажучы, ужо ў гэтым годзе праз пандэмію і агульную эканамічную стагнацыю многія беларускія клубы былі вымушаны зацягнуць паясы. Цяпер жа рэцэсія ў краіне набірае моц — і аналітыкі асаблівага свята ў канцы тунеля не бачаць нават у цэйсаўскі бінокль.

А футбол жа ў нас, як стратны калгас, — трымаецца ў асноўным за кошт дзяржаўнага фінансавання. Гэты сезон на старых запасах клубы яшчэ дагуляюць, а вось наконт будучага ў кулуарах прадчуванні часцяком трагічныя. Футбольная супольнасць маральна рыхтуецца, што датацыі скароцяцца ў разы, — і, здаецца, людзі маюць рацыю. І ўжо цяпер можна ставіць трывожныя пытанні, уцямных адказаў на якія пакуль няма.

Што будзе з БАТЭ, які імкнецца зарабляць еўракубкамі? Што будзе з брэсцкім «Дынама», дзе вялікія запазычанасці назапашваюцца цягам апошніх месяцаў? Што будзе з клубамі-сераднякамі, якія сілкуюцца ад гарадскіх і абласных сродкаў? Што будзе з андэрдогамі, якія і так ледзьве зводзяць канцы з канцамі?

## Пір напярэдадні чумы

У чэмпіянаце краіны тым часам застаецца згуляць усяго два туры, і балазе інтрыга ў табліцы такая, што турбавацца наконт будучыні проста няма калі. Фініш сезона мае ўсе шанцы стаць сапраўдным пірам напярэдадні імавернай чумы.

Па-ранейшаму нічога не зразумела наконт галоўнай — не эпідэмічнай кароны. Кароны чэмпіёна. На тытул пасягаюць БАТЭ і «Шахцёр», якія да таго ж сустракаліся ў суботу ў Салігорску. Гульню называлі «матчам стагоддзя» — кожнага з супернікаў перамога выводзіла на шырокі абсяг перад рашаючым рыўком. Аднак, як бывае, сіла дзеяння зраўнялася з сілай супрацьдзеяння, і гэты закон Ньютана даў у выніку нічыю. Барысаў быў бліжэй да поспеху, бо хутка забіў і спрытна адбіваўся потым ад мітуслівых наскокаў гарнякоў. І ўсё ж тыя на гол у адказ нагулялі — хай сабе і забілі яго з даволі спрэчнага пенальці. Даравальна для Салігорска, тым больш мясцовыя заўзятары зноў парадавалі — як і раней, у нейкі момант пачалі скандаваць: «Жыве Беларусь!»

**У чэмпіянаце краіны тым часам застаецца згуляць усяго два туры, і балазе інтрыга ў табліцы такая, што турбавацца наконт будучыні проста няма калі**

Фармальна ў залатой закрутцы фігуруюць яшчэ два клубы — «Нёман» і жодзінскае «Тарпеда». Зрэшты, ім, што сенсацыйна ўзняліся на неймаверную вышыню, за шчасце будзе і бронза — і менавіта пра трэцяе месца, можна не сумнявацца, абодва сёння і мараць.

Гродзенцы з кволымі «Смалявічамі» ў мінулым туры справіліся на адной назе, а вось Жодзіна зладзіла магутны перформанс — відовішчна і ўражліва раскроіла ў Брэсце мясцовае «Дынама». Гэта трэба было бачыць. Спачатку як гаспадары поля зраўнялі лік на 88-й хвіліне, дзякуючы, зноў жа, ліпаваму пенальці (тэма кепскага судзейства застаецца вечнай у беларускім футболе), а затым — як «Тарпеда» гераічна вырвала перамогу на пятай дададзенай хвіліне. Экшэн — па-іншаму не скажаш. Дзеючы чэмпіён здае паўнамоцтвы — цяпер гэта жалезная дадзенасць.

Застаецца дачакацца, хто гэтыя паўнамоцтвы прыме.

## Чэмпіянат Беларусі

**ВЫНІКІ 28-га ТУРА**

6.11. ІСЛАЧ (Мінскі раён) — МІНСК — 3:4 (Камароўскі, 29, з пенальці, Рыбак, 43, Макась, 68 — Ал. Васільеў, 15, з пенальці, 71, з пенальці, Ануфрыеў, 50, Зіновіч, 92+). ВІЦЕБСК — РУХ (Брэст) — 0:0. 7.11. СМАЛЯВІЧЫ — НЁМАН (Гродна) — 1:4 (Ханкевіч, 77 — Забелін, 15, 32, Кадзімян, 38, 59). СЛУЦК — ГАРАДЗЕЯ — 0:1 (Габараеў, 42). ДЫНАМА (Брэст) — ТАРПЕДА-БЕЛАЗ — 2:3 (Лапцеў, 32, Гардзейчук, 88, з пенальці — Габоўда, 56, 73, Анцілеўскі, 95+). ШАХЦЁР (Салігорск) — БАТЭ (Барысаў) — 1:1 (Бегуноў, 81, з пенальці — Няхайчык, 25). 8.11. БЕЛШЫНА (Бабруйск) — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — 1:5 (Рэкіш, 87 — Бакіч, 18, Мусаханян, 34, 83, Юдчыц, 47, Умараў, 92+). СЛАВІЯ (Мазыр) — ДЫНАМА (Мінск) — 0:1 (Хвашчынскі, 80).

**29-ты ТУР.** 22.11. Смалявічы — Славія, БАТЭ — Белшына, Гарадзея — Дынама Бр., Нёман — Слуцк, Мінск — Віцебск, Рух — Шахцёр, Энергетык-БДУ — Дынама Мн., Тарпеда-БелАЗ — Ісlач.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| | | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | БАТЭ | 28 | 16 | 6 | 6 | 60-32 | 54 |
| 2. | Шахцёр | 28 | 15 | 8 | 5 | 51-18 | 53 |
| 3. | Нёман | 28 | 15 | 5 | 8 | 39-26 | 50 |
| 4. | Тарпеда-БелАЗ | 28 | 14 | 8 | 6 | 50-35 | 50 |
| 5. | Дынама Бр. | 28 | 15 | 3 | 10 | 56-38 | 48 |
| 6. | Дынама Мн. | 28 | 15 | 3 | 10 | 35-23 | 48 |
| 7. | Ісlач | 28 | 13 | 5 | 10 | 45-42 | 44 |
| 8. | Рух | 28 | 10 | 11 | 7 | 49-33 | 41 |
| 9. | Энергетык-БДУ | 28 | 11 | 5 | 12 | 40-41 | 38 |
| 10. | Мінск | 28 | 11 | 4 | 13 | 41-51 | 37 |
| 11. | Віцебск | 28 | 8 | 11 | 9 | 26-33 | 35 |
| 12. | Славія | 28 | 8 | 9 | 11 | 36-48 | 33 |
| 13. | Гарадзея | 28 | 8 | 6 | 14 | 27-42 | 30 |
| 14. | Слуцк | 28 | 8 | 3 | 17 | 31-54 | 27 |
| 15. | Белшына | 28 | 5 | 6 | 17 | 31-59 | 21 |
| 16. | Смалявічы | 28 | 3 | 5 | 20 | 27-69 | 14 |



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1913

Падпісана да друку 12.11.2020. 8.00. Наклад 2300 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.